*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 24(132) ◈ 16 чэрвеня 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



### КРОК БЫЎ БЫ ЗУСІМ ВЫДАТНЫМ, КАБ... НЕ РАСІЙСКАМОЎНАЯ «КУЛЬГАВАСЦЬ»

*Скажам адразу: супрацоўнікі творчага маладзёжнага аб'яднання «Крок» на Беларускім тэлебачанні заслугоўваюць ухвалы за сваю «Залатую дзесятку». Думаецца, большасць з тых, хто глядзеў перадачу ўвечары 10 чэрвеня, засталіся задаволенымі — атрымалася і досыць займальна, і змястоўна. Зусім бы выдатны, так бы мовіць, крок у патрэбным накірунку, каб... не гэтая расійскамоўная «кульгавасць», што так рэзала слых. Шкада, што вядучая ніяк не падтрымала нашых маладых пачаткоўцаў-палітыкаў, якія заявілі пра свае сур'ёзныя намеры змагацца за пасады дзяржаўных кіраўнікоў Беларусі, у іх спробах гаварыць па-беларуску. А некаторыя ж пачыналі і... тушаваліся. Гэтак жа, як у дыскусіі з дэпутатам Вярхоўнага Савета Дзмітрыем Булахавым,— пад яго ным усмешліва-змрочным позіркам.*

*Дарэчы, незразумела, чаму менавіта гэтага чалавека запрасілі дыскутаваць з маладымі палітыкамі? Улічваючы тыя абставіны, у якіх ён знаходзіцца. Няўжо таму толькі, што, як шчыра прызналася вядучая, Булахаў здаецца ёй самым прыгожым дэпутатам Вярхоўнага Савета?*

У. А.

◆◆◆

*ПА ІНІЦЫЯТЫВЕ КСЯНДЗА УЛАДЫСЛАВА ЗАВАЛЬНЮКА створана рабочая група для перакладу з аўтэнтычных крыніц на сучасную беларускую мову корпуса рэлігійных тэкстаў Біблії (новага і старога тастаментаў, псальмоў ды іншых) на патрэбу каталіцкага касцёла ў Беларусі. Групу складаюць спецыялісты па беларусістыцы, паланістыцы, класічных мовах і перакладчыкі. Група будзе працаваць у непасрэдным кантакце з каталіцкімі тэолагамі, якіх прадстаўляе ксёндз Уладыслаў Завальнюк.*

◆◆◆

У Менску ў Доме настаўніка прайшла нарада-семінар начальнікаў абласных і Менскага гарадскога упраўленняў, загадчыкаў гарадскіх і раённых аддзелаў адукацыі на тэму: «Шляхі стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».

◆◆◆

Урад Рэспублікі Беларусь мяркуе выдзеліць на правядзенне Першага з'езда беларусаў свету 60 мільёнаў рублёў. Аргкамітэт прыняў рашэнне, згодна з якім рабочай мовай з'езда будзе сучасная беларуская, а сувенірныя матэрыялы гэтага форуму будуць аддрукаваны на «тарашкевіцы».

## ПАПЯЛУШКА ЛЯ ДЗВЯРЭЙ ВНУ

*Сёлета 4 і 5 мая ў Менскім радыётэхнічным інстытуце адбылася навукова-метадычная канферэнцыя «Актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ».*

Без малога трыста выкладчыкаў усіх вышэйшых навучальных устаноў Беларусі, у тым ліку і Менскага вышэйшага вайсковага інжынернага вучылішча (ды некалькі іх калег з-за мяжы), прыслалі аргкамітэту тэзісы сваіх навуковых прац, у якіх даследуюцца праблемы беларусізацыі ВНУ. Яны надрукаваны ў спецыяльным зборніку, выдадзеным да канферэнцыі аргкамітэтам.

Удзельнікаў вітаў Ніл Гілевіч, які назваў канферэнцыю вялікай падзеяй у навуковым, культурным і духоўным жыцці рэспублікі. Пасля выступілі: рэферэнт Савета Міністраў Віталь Маслоўскі; намеснік міністра адукацыі. прафесар Васіль Стражаў, добра вядомы паводле правакацыйнага ліста, які за яго подпісам быў накіраваны ва ўсе ВНУ Беларусі; прафесар БДУ Мікола Крукоўскі; прафесар Мікола Гарбачук з Інстытута матэматыкі АН Украіны; прафесар, старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны Мікола Савіцкі; намеснік старшыні гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных школ і класаў, выпускнік РТІ В. Палсцюк; старшыня рады Задзіночання беларускіх студэнтаў Алесь Глушко — аўтар «Слоўніка хімічных тэрмінаў».

Ды найцікавей было на секцыйных пасяджэннях. На секцыях «Тэхнічныя дысцыпліны», «Фізіка», «Матэматыка», «Геаграфія. Эканоміка», «Хімія. Біялогія. Медыцына» абмяркавана каля паўтараста дакладаў і паведамленняў, што закраналі пераважна тры праблемы: адоленне псіхалагічнага бар'ера, скептыцызму ды адмоўнага стаўлення да беларускай мовы; распрацоўка і выданне беларускіх тэрміналагічных слоўнікаў па адпаведных галінах навукі; унармаванне тэрміналогіі.

Я прысутнічаў на пасяджэннях дзвюх секцыяў і быў прыемна ўражаны высокім узроўнем ведаў, эрудыцыяй навукоўцаў-выкладчыкаў, якія не толькі дасканала валодаюць тэрміналогіяй, вядома ж, беларускай, але і законамі нашай мовы, яе асаблівасцямі. Адчувалася, што фізікі, прыкладам, не чакалі нейкага дадатковага загаду, а даўно ўзяліся за справу. Шмат у каго складзены тэрміналагічныя слоўнікі, чытаюцца лекцыі на беларускай мове. «Першы год была мука»,— шчыра прызнаўся адзін з выкладчыкаў Менскага педагагічнага інстытута. А ўжо цяпер і студэнты пераважна выбіраюць беларускамоўныя патокі.

З студэнтамі, як адзначалі ўдзельнікі канферэнцыі, праблемаў няма. Напачатку шмат хто адмоўна паставіўся да чытання лекцый на беларускай мове, але пасля некалькіх лекцый, калі яны

*Заканчэнне на с. 2.*

*У Варшаве працуе III канферэнцыя беларускіх і польскіх гісторыкаў на тэму «Беларуска - польскія адносіны ў 1918—1945 гг.».*

*На адным з апошніх пасяджэнняў Менгарвыканкама вернуты старыя назвы наступным вуліцам: Апанскай — назва Кальварыйская, Астроўскай — Ракаўская, Урыцкай з часткай Рэспубліканскай да яе скрыжавання з Нямігай — Гарадскі Вал, астатняя частка вуліцы Рэспубліканскай ад Нямігі да Юбілейнай плошчы — Раманаўская.*

*10 ЧЭРВЕНЯ СПОЎНІЛАСЯ 300 ГАДОЎ з моманту стварэння «Магілёўскай хронікі», якую пісала некалькі пакаленняў магілёўцаў Трубніцкіх.*

*Міністр адукацыі Беларусі В. Гайсёнак і намеснік старшыні Дзяржкамітэта КНР па пытаннях адукацыі Лю Бін падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне адукацыі.*

## Агульнанацыянальны правапіс — з суладдзя гаворак

*Мова і мы*

*(Гутарка з вучоным- літаратуразнаўцам Алесем ЯСКЕВІЧАМ)*

— ПРАВАПІС НЕ МОЖА БУДАВАЦЦА ТОЛЬКІ ПАВОДЛЕ ФАНЕТЫЧНА-ВЫМАЎЛЯЛЬНАЙ МАДЭЛІ. ЯГО ЗАДАЧА ЎЗБУЙНЯЦЬ, ІДЭАЛІЗАВАЦЬ АГУЛЬНАМОЎНЫЯ РЫСЫ, КАБ У ІМ, ХАЙ САБЕ І СВОЕАСАБЛІВЫМ ЧЫНАМ, ЗНАХОДЗІЛІ СВАЁ РОДНАСНАЕ ЎСЕ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ ГАВОРКІ.

**— Алесь Сямёнавіч, усе, хто цікавіцца беларускай літаратурай, добра ведаюць Вас як высокакваліфікаванага спецыяліста гісторыка-тэарэтычнага профілю. Вы доўгі час займаліся пытаннямі стылю і структуры мастацкага твора, рытмам прозы, пошукамі аб'яднанай канцэпцыі мастацкага перакладу і г. д. Запомнілася Ваша выступленне на тэму «Правапіс: вяртанне ці ўсё ж удасканаленне» на адным з пасяджэнняў Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі. Як даўно Вы пачалі займацца гэтай праблемай?**

— Мне нейкі час давялося працаваць у правапіснай камісіі пры Таварыстве беларускай мовы. За час супрацоўніцтва я блізка сышоўся з абаронцамі розных поглядаў, і ў прыватнасці, прыхільнікамі ўдасканалення беларускага правапісу па мадэлі «тарашкевіцы». У выніку шматлікіх дыскусій і ім давялося пераканацца, што зварот да ранейшай нашай арфаграфіі, без спроб яе ўдасканалення выглядае сёння проста наіўным.

**— А як Вы глядзіце на спрэчку паміж прыхільнікамі «тарашкевіцы» і тымі, хто за сучасны правапіс?**

— Сённяшняе бязладдзе ў правапісе, што адкінула ўнармаванасць нашай мовы ледзь не да «нашаніўскай» пары, адбываецца ў значнай ступені з-за таго, што паміж абаронцамі «тарашкевіцы» і прыхільнікамі абачлівага ўдасканалення правапісу не дасягнута ўзгаднення выхадной пазіцыі, якая ва ўмовах нашай злашчаснай білінгвістычнай сітуацыі патрабуе адзінадушша. Я даўно ўжо заўважыў, што найбольшыя непаразуменні паміж людзьмі здараюцца не па наўмысных намерах, а з нежадання выслухаць адзін аднаго. Асабіста я цаню, напрыклад, выключную вынаходніцкую думку Вінцука Вячоркі, здатнага генерыраваць новыя ідэі ў гэтым пытанні, а ў Пятра Садоўскага здольнасць разумна пераадольваць аднобіч прыняты погляд і ў выніку схіляцца да мэтазгоднага лінгвістычнага рашэння.

**— Сярод паасобных прыхільнікаў «тарашкевіцы» выказвалася думка скасаваць існуючы правапіс і ледзь не замяніць яго на мову дыяспары.**

— У сённяшніх абставінах гэты эксперымент для нацыі быў бы небяспечным, з якога нямала пасмяяліся б

*Заканчэнне на с. 2.*

# ПРА ЖУРАЎЛЯ НЕ ТОЛЬКІ Ў НЕБЕ

ЖУРАВЕЛЬ у небе — вобраз-сімвал недасяжнай мары. Недасяжнай для тых, хто гатовы пагадзіцца з яе недасягальнасцю, задаволіцца «сініцай у руках» — абы без асаблівых высілкаў. Вось каб дзівосны птах ды сам зляцеў у рукі — мо і няблага было б...

Прыкладна да такога сэнсу зводзяцца часам развагі пра лёс і адраджэнне нашай гістарычнай памяці, мовы і культуры. Маўляў, ну, згубілі беларусы на пакручастых шляхах свае духоўныя каштоўнасці, дык што цяпер паробіш. Не «каўбасная» ж праблема, каб надта ўжо трапятацца-руплівіца...

На шчасце, не ўсе такія «сінічнікі». Не ўсе, як некаторыя нават дзяржаўныя мужы, упарта робяць выгляд, быццам Закона аб мовах у Беларусі, разам з праграмамі «Родная мова» і «Спадчына», наогул не існуе ў прыродзе. Ёсць (і іх пакрысе ўсё болей) руплівцы, што цярпліва і з верай у сваю справу ўзнімаюць даволі-такі здзічэлы дзірван. З такімі людзьмі, хто шчыруе на зямлі, а ўмее бачыць неба, сустракаўся на Маладзечаншчыне народны паэт і народны дэпутат Ніл Гілевіч.

У чарговую паездку па раёне, жыхары якога абралі Ніла Сымонавіча ў Вярхоўны Савет, старшыню Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны прывялі не адны чыста «профільныя» пытанні. Усё, што трывожыць і хвалюе людзей,— яго асабісты непакой і турбота, якімі б далёкімі ад паэзіі яны ні здаваліся. У Красненскім сельсавеце, напрыклад, дзе ішоў прыём наведвальнікаў, даводзілася ламаць галаву над гарачым і неадкладным зямельным пытаннем. Як падзяліць без крыўдаў, па справядлівасці паміж мноствам жадаючых мізэрны свабодны лапік пад «соткі»? Тутэйшым сялянам ужо і так карову няма куды выгнаць — з-за шалёнай, дзікай прыхватызацыі, перад якой бяссільны мясцовыя ўлады. З усіх бакоў абступаюць Краснае (як і іншыя паселішчы) шыкоўныя, магутныя замкі-гмахі. І апраўдальныя паперы «зверху» маюць уладальнікі, і зусім не папяровыя, вечна дэфіцытныя (для простых смяротных) будматэрыялы. А вось зладзіць у чатырохтысячным пасёлку звычайную лазню, хоць бы агульнымі сіламі навакольных гаспадарак, прадпрыемстваў і арганізацый,— праблема амаль невырашальная, без дэпутата не разбярэшся...

У будынку Мясоцкага сельсавета — наступным пункце вандроўкі паэта — ішла размова аб увекавечанні памяці былога вучня Барыса Канцюга, расстралянага гітлераўцамі бязвіннага падлетка. Не знакаміты ён герой, ніякіх подзвігаў не зрабіў — проста ішоў па вуліцы з чырвоным велікодным яйкам у руцэ, а насустрач — раз'юшаныя аўтаматчыкі...

Адлітая з металу мемарыяльная дошка з нестандартна пранікнёнымі, сардэчнымі словамі (не абышлося без рукі Ніла Сымонавіча) гатова да ўстаноўкі на камені. Дарэчы, тут, паблізу, ля паваротки на Мясоту стаіць незвычайны помнік Дарозе: на гэтым старым беларускім шляху Менск — Маладзечна — Вільня пакінулі ў свой час сляды волаты духу Сымон Будны і Міхал Агінскі, Тарас Шаўчэнка і Мікалай Гогаль, Уладзіслаў Сыракомля і Францішак Багушэвіч, Янка Купала і Якуб Колас.

Дарэчы, гэтыя і шмат якія яшчэ памятныя знакі на Маладзечаншчыне ў гонар выдатных асоб і гістарычных падзей — шмат у чым плён чалавечага і грамадзянскага клопату заслужанага работніка культуры, старшыні раённага Савета ветэранаў Вячаслава Антонавіча Ляшковіча, дбайнага аратага на ніве адраджэння нашай памяці, духоўнай спадчыны народа.

Такіх шчырых руплівцаў у раёне нямала. Сярод іх і настаўнікі Турэц-Баярскай сярэдняй школы, дзе адбылася яшчэ адна цікавая, запамінальная сустрэча таго дня.

...Малады, пасаджаны вучнямі парк вязе да будынка. Непадалёк — цудоўны стадыён і вялікая цяпліца (якая, прынамсі, дае гародніну для школьнай сталовай і расаду для сялянскіх агародаў). Сляды гаспадарскай рупнасці — і ў сценах школы, дзе ўсё сагрэта цеплынёй пяшчотных рук. Пышныя фіранкі, кветкі, мастацкія пано і кампазіцыі (таксама плён юных умельцаў) ствараюць атмасферу амаль што хатняй утульнасці.

Ні характэрнай для многіх школ казарменнай казёншчыны, ні вэрхалу і гвалту (як-ніяк паўтысячы жэўжыкаў!) тут няма і знаку. Цікавыя ўрокі, цікавыя заняткі на ўсе густы ў вольны час захапляюць дзятву добрымі, карыснымі справамі.

Экскурсія па школе, якую вёў для гасцей дырэктар Павел Іванавіч Быкаў, не перапыніла засяроджанай работы з камп'ютэрамі ў класе інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі, быццам вясковыя дзеці прывучаны да яе з калыскі. Цэнтр тэхнічнай творчасці, па-сучаснаму абсталяваны з дапамогай базавай гаспадаркі — калгаса «Светлы шлях», вабіць да сябе кемлівых падлеткаў. Свой магніт прыцягнення ў кабінетах біялогіі і геаграфіі, беларускай і рускай моў. У хуткім часе стане рэальнасцю мара вучняў і настаўнікаў — зала эстэтыкі, дзе ўсё будзе абуджаць пачуццё прыгожага, прагу да творчасці.

Накірунак на арганізацыю і гуманізацыю выхавання, непакой аб тым, каб, рыхтуючы моладзь да ўступлення ў тэхнатронную эру, не перасушыць халодным прагматызмам юначыя душы, сталі клопатам усяго педагагічнага калектыву. Разнастайныя гурткі — музычныя і харавыя, юных мастакоў і ўмельцаў, лялечны тэатр — разлічаны на ўсе ўзросты. Асаблівa спадабаліся госцю работы школьных фларыстаў і аплікатараў саломкай, якіх пястуюць настаўніцы Людміла Аляксандраўна Сянько і Галіна Васільеўна Жукапень. А з маленькімі разьбярамі ахвотна займаецца адзін з бацькоў — Іван Пятровіч Барташэвіч: ён нават інструмент для гуртакоўцаў сам зрабіў.

Гордасць школы — нядаўна створаны этнаграфічны музей. Тут ёсць што пагледзець і паслухаць. Вельмі багаты матэрыял па гісторыі роднага краю сабралі вучні на чале з дырэктарам школы, намеснікам дырэктара Людмілай Феліксаўнай Шурпік і выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры Ліліяй Ціханаўнай Гарэлік. «Рэчавыя доказы», дакументы, фатаграфіі, з любоўю і густам размешчаныя ў экспазіцыі, сведчаць аб славе тутэйшых ратаяў-карміцельцаў, мужных ваяроў, таленавітых творцаў народнага мастацтва. Мясцовым ткачыхам, разьбярам і г.д. прысвечаны цэлыя альбомы дзіцячых нарысаў.

Эпіцэнтр музея — «сялянская хата», зладжаная і абсталяваная згодна з традыцыямі ранейшага вясковага побыту. Не хочацца выходзіць з гэтай хаціны, хоць і да столі рукой дастанеш, і паверынуцца асабліва няма дзе. Але якая ўтульнасць і прыгажосць ад гэтых адмысловых ручнікоў і посцілак! Якую павагу да здатных на майстэрства продкаў выклікаюць простыя і зграбныя даўнейшыя прылады працы, рэчы хатняга ўжытку!

Гэтую тэму — роля створанай народам матэрыяльнай і мастацкай культуры ў гартаванні чалавечай душы — закрануў у гутарцы са старшакласнікамі Ніл Гілевіч, якога яны вывучаюць. Гэта была шчырая размова «вочы ў вочы» аб дарагім, запаветным. Ці ведаюць дзеці, якімі талентамі, здольнасцямі і справамі не толькі далёкіх у часе герояў, а ўласных бацькоў і дзядоў яны могуць ганарыцца? Ці задумваюцца, які след пакінуць самі на гэтай зямлі, чым будуць карысныя сваёй Бацькаўшчыне?

...Усё ў гэтай звычайнай сельскай школе дыхае павагай да нацыянальнай гісторыі, мовы, духоўнай спадчыны. І не ў тым толькі справа, што вас сустракае тут дзяржаўная сімволіка Беларусі — бел-чырвона-белы сцяг і выява імклівай «Пагоні». Галоўнае — удумнасць і мэтанакіраванасць, з якой працуе калектыў над абуджэннем у выхаванцаў святога грамадзянскага пачуцця, прыхільнасці да родных каранёў — пры павазе і сяброўстве да іншых народаў.

Праца ідзе спакваля, без шуму і прымусу: не так ужо і даўно ў школе пачаўся пераход на беларускую мову навучання, і цярплівая тлумачальная работа з бацькамі, уменне зацікавіць вучняў даюць адчувальны плён. Ну, вось хоць бы дзесяцікласніцы Ганна Мяшок, Вольга Папкова, Марына Бічаль, Наталля Новаш і іх сяброўкі: нельга было нарадавацца, як натхнёна, на жывой, сакавітай роднай мове вялі яны экскурсію ў музеі.

Для кожнага класа распрацавана цэлая сістэма вучэбных і пазакласных заняткаў па праграме Адраджэння. А па выніках кожнай чвэрткі — людныя і яркія школьныя святы «Белая Русь», на якія запрашаюцца бацькі, жыхары навакольных вёсак. Яны ўжо сталі традыцыяй і палюбіліся ўсім. Ну, каго не прывабіць, напрыклад, выстава-кірмаш работ юных мастакоў і ўмельцаў (работы ідуць нарасхват), конкурсы сачыненняў і малюнкаў па тэме «Мая Айчына», чытальнікаў беларускай класікі, альбомаў з запісамі ад мясцовых старажылаў народных песень, казак, прымавак? А захапляльныя вікторыны знаўцаў роднай гісторыі, літаратуры і мастацтва, выступленні ўдзельнікаў дзіцячай самадзейнасці? А ці не дарунак малым і дарослым — прыезд у Турэц-Баяры знакамітага не толькі на Маладзечаншчыне фальклорнага ансамбля «Маркаўчанка» — узору беражлівага і творчага стаўлення да нашай музычна-песеннай спадчыны?

...Падчас размовы ў кабінеце дырэктара (дарэчы, надзвычай ухвальна, што ён, фізік па адукацыі, зусім не цураецца «лірыкі» і ўпэўнена і разумна вядзе ў калектыве рэй беларусізацыі) зазваніў тэлефон. Паўла Іванавіча запрашалі ў аблвыканкам на нараду па рэалізацыі праграмы «Спадчына».

— А мы якраз аб гэтым гутарым тут зараз з госцем, старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета і Рады ТБМ імя Ф. Скарыны,— мовіў у трубку гаспадар кабінета.

Сустрэчы з маладзечанскімі сябрамі далі народнаму дэпутату новы штуршок думкам аб тым, як больш адчувальна рушыць наперад справу нацыянальнага Адраджэння.

Пачынаць трэба са школы, нават раней — з дзіцячага садка, выхавання бацькоў і саміх выхавальнікаў. Хай яшчэ многа перашкод на шляху, шмат хто яшчэ не ўсведамляе сябе сынам Беларусі. Не стае тым жа школам нацыянальна дасведчаных выкладчыкаў, кніг і падручнікаў на роднай мове. Але шлях адолее той, хто ідзе.

...Усю дарогу да Менска Ніл Сымонавіч беражліва трымаў у руках дарунак мастака з 5 «Б» Турэц-Баярскай школы Алега Штыка — інкруставанае залацістай саломкай пано-пейзаж «Журавель»: сярод буйных траў і кветак пахаджае дзівосны птах — ці толькі зляцеў з падняебесся, ці то збіраецца зноў у палёт. Але як бы высока ні ўзлятаў, зямное прыцягненне неадольнае: тут яго гняздоўе, адсюль пачынаецца дарога ў неба.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**
Маладзечанскі раён.




## «Усемаскоўскае» Купалле

Як і летась, зараз маскоўскія беларусы разам з беларусамі Летувы, Латвіі і Эстоніі збіраюцца святкаваць Купалле. Яны мяркуюць сабрацца на свята на падмаскоўнай рэчцы Пахра, што пад Падольскам. Па традыцыі будуць прысутнічаць дыпламаты з краін Балтыі. Што да беларускіх дыпламатаў, то на такія «несур'ёзныя» мерапрыемствы яны звычайна не ходзяць.

**Генадзь ЛЕХ.**

## Карэліцкія чытанні

**6 чэрвеня пройдуць першыя карэліцкія краязнаўчыя чытанні, якія прысвечаны славутым землякам: Ігнату Дамейку, Яну Чачоту, Вінцэсю Каратынскаму, Янку Брылю, Барысу Кіту і іншым. Разам з раённымі ўладамі імпрэзу рыхтуе Скарынаўскі цэнтр.**

## «Ленінец» вяртаецца...

**Назва раённай газеты «Навіны Камянеччыны» была даўно не даспадобы некаторым кіраўнікам. І вось у сакавіку на савеце калгасаў, а пасля на пасяджэнні райвыканкама была прынята рашэнне вярнуць газеце старую назву «Ленінец». Рэдактар «Навінаў Камянеччыны» сп. Т. Скуратава прадбачыла такі вынік і палічыла за лепшае звольніцца «па ўласным жаданні».**

## Салідарнасць журналістаў

**25 траўня адбыўся Устаноўчы сход Беларускай асацыяцыі свабодных сродкаў масавай інфармацыі. На сходзе быў прыняты Статут і абраны кіруючыя органы. Сустаршынямі асацыяцыі сталі Жанна Вашкевіч і Алесь Мікалайчанка. Заснавальнікам выступіла Беларуская ліга правоў чалавека.**

## Крыж Ефрасінні Полацкай

**Берасцейскі майстар Мікола Кузьміч пасля доўгіх ваганняў узяўся аднавіць крыж Ефрасінні Полацкай.**

**Патрыяршы экзарх Беларусі, Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт асвяціў майстэрню, і праца пачалася. Фундаваў працу генеральны дырэктар АТ «Варыянт» сп. Варывончык з Сургута. А з нашай дзяржавы дапамога праяўляецца толькі ў ахове супрацоўнікамі КДБ каштоўнасцей, неабходных для вырабу крыжа.**

**Адась КРАШЭЎСКІ.**

* * *

**У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Праблемы развіцця нацыянальнай эканомікі». Яна падсумавала вынікі навуковай дзейнасці універсітэта. Прысутнічалі госці з блізкага і далёкага замежжа, прадстаўнікі кіраўнічых органаў рэспублікі, эканамісты-практыкі.**

**Выклікае занепакоенасць, што, як высветлілася на канферэнцыі, практычна няма людзей, якія б глыбока займаліся эканамічнай тэорыяй, якія б маглі прапанаваць нешта свежае, арыгінальнае.**

**Адзначым і тое, што на канферэнцыі прысутнічала мала навуковай моладзі.**

**Андрусь ДЫЛЮК.**

# ПАПЯЛУШКА ЛЯ ДЗВЯРЭЙ ВНУ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1.*

пераканаліся, што амаль усё зразумела, вярнулася паразуменне з выкладчыкам. А пра тое, што студэнты добра разумеюць беларускую мову, сведчыць хоць бы такі факт. Некаторыя студэнты вядуць канспекты на расійскай мове — гэта значыць яны перакладаюць і тут жа запісваюць пераклад, відаць, таму, што не маюць звычкі пісаць па-беларуску.

«Праціўнікі выкарыстання дзяржаўнай мовы ў працэсе выкладання прыродазнаўчых дысцыплін,— піша ў тэзісах прафесар Брэсцкага педагагічнага інстытута С. Яцкевіч,— нярэдка спасылаюцца на тое, што быццам бы беларускія студэнты самі жадаюць вучыцца толькі на расійскай мове». І ён даказвае, што такое меркаванне памылковае, нават калі яно заснавана на статыстычных лістах, бо, прыкладам, на адказы ўплывае нават мова анкетаў.

На самай справе з студэнтамі праблемаў няма і не будзе. А вось з выкладчыкамі?

Як перасіліць іх кансерватызм? Спасылацца на сучасныя прыклады ці на сапраўдных інтэлігентаў-вучоных дваццатых гадоў? У 1919 годзе пачаў працаваць у Горацкай сельгасакадэміі прафесар Маскоўскага універсітэта І. Багаяўленскі. Ён не толькі вывучыў нашу мову ды выкладаў на ёй, але і напісаў прыгожай літаратурнай мовай падручнік «Аналітычная геаметрыя» (Горкі, 1932). Гэтак жа лёгка авалодаў беларускай мовай сусветна вядомы матэматык, пазней акадэмік АН БССР Ц. Бурстын, які ў 1929 годзе пераехаў з Аўстрыі ў Менск. Яго «Курс дыферэнцыяльнай геаметрыі» (Мн., 1933) стаўся значнай з'явай у беларускай матэматычнай адукацыі.

Іх калегі канца XX стагоддзя не хочуць і чуць пра беларусізацыю. «Вялікая цяжкасць пры пераходзе выкладання на беларускую мову ў тым, што большасць выкладчыкаў агульнатэхнічных дысцыплін ёю не валодае або дрэнна валодае,— сведчыць дацэнт Мазырскага педагагічнага інстытута Л. Ляткоўскі.— На кафедры агульнатэхнічных дысцыплін беларусы сярод выкладчыкаў складаюць палову, а сярод дацэнтаў — толькі чвэрць усяго спісу. У гурток па вывучэнні беларускай мовы ў мінулыя гады запісалася ўсяго некалькі выкладчыкаў, з-за таго ён не працаваў».

Яшчэ зусім нядаўна ў газетах Рэспублікі Беларусь можна было чытаць артыкулы, аўтары якіх даказвалі прынцыповую немагчымасць выкладання тэхнічных, матэматычных дысцыплін на беларускай мове. Існавала манаполія распрацовак тэрміналогіі толькі на расійскай мове, бо, прыкладам, на беларускай нібы нельга было перадаць усю шматстайнасць сутнасці...

Вядома ж, ніхто з такіх «вучоных» і не ведае, што ў XVI стагоддзі беларускім матэматыкам была вядома прылада для лічэння, якая ў той час называлася «кампутар».

Ва ўсе часы валоданне некалькімі мовамі лічылася адной з галоўных прыкмет адукаванасці. «Прывучаючы ўсё рабіць на адзін капыл,— лічыць дацэнт Магілёўскага тэхналагічнага інстытута А. Смаляк,— нас прывучылі да аднамоўя». Аднамоўе ж — адпаведны інтэлектуальны ўзровень выкладчыкаў і адпаведны ўзровень студэнтаў, а пазней — уладальнікаў дыпломаў. Пра гэта сказаў у сваім дакладзе і намеснік міністра, прафесар Васіль Стражаў: «З уласнага вопыту... адчуваю, што сусветнаму стандарту адпавядае, відаць, не больш за палову выпускнікоў...»

«У якой краіне,— здзіўляецца Мікола Савіцкі, які сам на шостым дзесятку жыцця пачаў выкладаць прадмет «Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка» на беларускай мове,— прысвояць званне прафесара навукоўцу, які не валодае прафесійна дзяржаўнай мовай?» А між іншым, інтэлектуальная праца — падрыхтоўка тэкстаў лекцый на беларускай мове,— як сцвярджае М. Савіцкі,— дае штуршок творчаму працэсу.

Ці спрыяе гэтаму працэсу Міністэрства адукацыі? Ці мае яно нейкую канцэпцыю вышэйшай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь? На канферэнцыі, дзе разглядаліся актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання, намеснік міністра спадар В. Стражаў гаварыў толькі пра пераход да шматузроўневай сістэмы падрыхтоўкі кадраў.

Ды карціць запытацца, якой будзе хоць бы першая ступень, бо, прыкладам, Міністэрства мяркуе, што беларускую мову будуць ведаць магістры. Новую сістэму апрабоўваюць у РТІ. На факультэце радыётэхнікі і электронікі ўжо «ажыццяўляецца падрыхтоўка радыёінжынераў па трохступеннай сістэме адукацыі». У тэзісах пазначана: «Бакалаўры і магістры павінны валодаць беларускай мовай». Ці не вынікае адсюль, што на першай ступені яе не будуць вывучаць?

Выкладчыкі, што сабраліся на канферэнцыі, відаць, ведаюць, якія могуць быць адказы на гэтыя ды іншыя пытанні. Таму яны самі паміж сабою дамаўляліся абменьвацца сваімі распрацоўкамі тэрміналогіі, не спадзеючыся на каардынацыю гэтай работы Міністэрствам адукацыі. Яны вымушаны былі «адзначыць адсутнасць належнай мэтанакіраванасці ў працэсе адраджэння і развіцця беларускай нацыянальнай вышэйшай школы». У «Звароце да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь» удзельнікі канферэнцыі прапануюць стварыць «комплексную дзяржаўную праграму развіцця беларускай вышэйшай школы на падставе нацыянальнай канцэпцыі рэформы сістэмы адукацыі з абавязковай распрацоўкай механізма яе выканання і кантролю за ходам рэалізацыі».

На заключным пасяджэнні прагучала прапанова абудзіць у ВНУ беларускі дух, творчы дух славутых беларускіх інжынераў Казіміра Семяновіча, Якуба Наркевіча-Ёдкі, Барыса Кіта...

**З. СІЦЬКО.**

**Рэдакцыя мае намер пазнаёміць чытачоў з некаторымі руплівцамі беларушчыны ў ВНУ, а таксама з вынікамі іх працы па стварэнні тэрміналагічных слоўнікаў.**

## Двухмоўю — не

### *Заява ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь*

Рэспубліканская навукова-метадычная канферэнцыя «Актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ», у якой прынялі ўдзел больш за 300 выкладчыкаў і навукоўцаў з усіх ВНУ Беларусі (у тым ліку 48 дактароў і 160 кандыдатаў навук), катэгарычна выказваецца супраць пастаноўкі ў любой форме пытання па дзяржаўным двухмоўі. Двухмоўе смяртэльна для адраджэння беларускай нацыі. Гэта антыдзяржаўны і антынародны акт.

Лічым неабходным спыніць публікацыю правакацыйных артыкулаў, у якіх беларускай дзяржаве навязваецца ў якасці другой мовы руская, мова іншай дзяржавы. Такія шавіністычныя патрабаванні зневажаюць наш народ і даюць падставы іншым нацыянальным меншасцям патрабаваць, каб і іх мова была дзяржаўнай.

Канферэнцыя заклікае Вярхоўны Савет, усіх грамадзян рэспублікі забяспечыць поўнае і своечасовае выкананне заканадаўства Беларусі па моўных, культурных і адукацыйных пытаннях.

Удзельнікі канферэнцыі.

# *АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНЫ ПРАВАПІС — З СУЛАДДЗЯ ГАВОРАК*

*Заканчэнне. Пачатак на с. 1*

ды, галоўнае, пакарысталіся нашыя нядобразычліўцы. Трэба не вяртанне, а ўсё ж удасканаленне. Драматызм нацыянальнага становішча патрабуе ад беларускай мовы, як ад дзяржаўнай, максімальна вызначыцца ў сваіх самабытных асаблівасцях, калі гаварыць больш дакладна ў сваёй старажытнакаранёвай славянскасці. А за «тарашкевіцай» не ўся праўда аб нашай мове...

**— Вы лічыце, што напаўзабытая намі самабытнасць беларускай мовы—гэта адзін з тых фенаменальных момантаў, без уліку якіх немагчыма наблізіць правапіс да сучасных міжнародных стандартаў?**

— Так. На маю думку, гэта адна з асаблівасцей, з якой неабходна зыходзіць пры ўдасканаленні нашага правапісу. Нам яшчэ давядзецца шмат што ўзнаўляць з нашай моўнай самабытнасці. Варта адзначыць такі момант: «тарашкевіца» складвалася на ашмянска-віленскіх гаворках, а кожны дыялектолаг вам давядзе, што гэты рэгіён няўстойлівы, знаходзіцца пад моцным літоўскім і польскім уплывамі. У той жа час у нашым правапісе слаба прадстаўлены рысы ўсяго рэгіёна паўночна-ўсходніх гаворак Палесся і Брэстчыны, не выкарыстаны для ўзбагачэння літаратурнай мовы прагрэсіўныя тэндэнцыі ў іх. Дзве другія асаблівасці, якія таксама трэба ўлічыць пры ўдасканаленні правапісу — маладосць новай беларускай літаратурнай мовы і праблема ўзбагачэння нашага алфавіта, у прыватнасці, распрацоўка лігатур для больш зручнага абазначэння афрыкатаў «дз», «дж». У сваіх практычных рашэннях па ўдасканаленні правапісу важна па магчымасці зыходзіць з разумення «кодавых» асаблівасцей — асноў нацыянальнай мовы, увогуле з працэсаў яе развіцця як сістэмы, без чаго нашы канкрэтныя прапановы будуць выглядаць неабгрунтаванымі. На маю думку, аднабаковасцю вызначаюцца сённяшнія намаганні некаторых моваведаў правесці франтальнае падпарадкаванне правілу акання-якання ў пераднаціскных пазіцыях. Гэтае пытанне выглядае не так проста, як здаецца на першы погляд. Асабліва ў адносінах запазычанай лексікі...

**— Алесь Сямёнавіч, здаўна лічылі, што беларуская мова мае ўнікальны правапіс: як вымаўляецца, так і пішацца...**

— Правапіс не можа будавацца толькі паводле фанетычна-вымаўляльнай мадэлі. Яго задача ўзбуйняць, ідэалізаваць агульнамоўныя рысы, каб у ім, хай сабе і своеасаблівым чынам, знаходзілі сваё роднаснае ўсе нацыянальныя гаворкі. Невыпадкова сталая літаратурная мова мае мэтай выпрацоўку да таго ж і высокаўзорнага літаратурнага вымаўлення. Міфічнасць чыста вымаўляльнага прынцыпу ў правапісе добра разумеў, напрыклад, Якуб Колас. Ён вылучаў у беларускім правапісе, апрача фанетычнага, яшчэ этымалагічны прынцып, прынцып традыцыі, прынцып напісання чужаземных слоў і інш.

**— А як Вы ставіцеся да пытання асіміляцыі па мяккасці?**

— Многім гэтая праблема «здаецца ўжо вырашанай», хоць яна ў сённяшнім правапісе мне ўяўляецца найбольш складанай. Правільнае вырашэнне яе якраз залежыць ад сістэмнага бачання нашых моўных асаблівасцей і ў першую чаргу іх гістарычнай абумоўленасці. Калі ж весці гаворку пра фіксацыю на пісьме нашай характэрнай асіміляцыйнай мяккасці, дык яе трэба разглядаць у сістэме з нашай не менш характэрнай зацвярдзеласцю зычных. Пры выпрацоўцы майго асабістага погляду па гэтым пытанні не можа не ўплываць аўтарытэт Акадэмічнай канферэнцыі 1926, якая ўнесла прапанову аб скасаванні мяккага знака ў асіміляцыйных пазіцыях. І ўсё ж выпадкі ўмацавання нацыянальных рысаў не кожны год надараюцца, і таму я прытрымліваюся меркавання аб дапушчэнні асіміляцыі па мяккасці ў якасці правапіснай нормы. Пазней, калі гэтая асаблівасць адпрацуе на самасцвярджэнне айчыннай мовы, грамадскасць на больш сталым узроўні правапісу без цяжкасці зможа адмяніць гэтае правіла. Але пазначаць не ерам (ь), а адпаведным знакам палаталізацыі (') і толькі ў першай пазіцыі слова. У астатніх асіміляцыя спрацоўвае без пазначэння і, што важна, у патрэбнай ёй меры.

**— Алесь Сямёнавіч, на пасяджэнні Рады Саюза пісьменнікаў Вы адмовіліся ад заключнага слова і такім чынам ад адказу на выступленні апанентаў. Тым не менш, Вы не маглі б для нашых чытачоў гэта зрабіць?**

— У спрэчках па майму дакладу адзіна настойліва абараняў магчымасць пабудовы нашага правапісу паводле фанетычнага прынцыпу Анатоль Клышка. У прыклад прыводзіў фінскую мову. На жаль, у мяне цьмянае ўяўленне пра яе, таму з цяжкасцю ўспрымаецца ідэя правапісу на чыста вымаўляльнай аснове. Думаю, што і там не абышлося без кампрамісу. Вунь у нашым на знешні погляд фанетычным правапісе маюць месца яшчэ марфалагічны і этымалагічны прынцыпы. Увогуле наспела патрэба, каб прыхільнікі фанетычнага правапісу не абмяжоўваліся паасобнымі заўвагамі, а сабраліся з сіламі і прадставілі сваю цэльную канцэпцыю з узгадненнем усіх цяжкавырашальных момантаў у сучаснай арфаграфіі.

Гэта адзіны шлях—ці даказаць сваю правату, ці пакласці канец спакусе.

**— Сусветная практыка паказвае, што адпаведныя змены ў правапісе — гэта праца не аднаго дня. Рэфарматары то гарачацца, але калі справа даходзіць да практычных змен, то заўсёды перамагае памяркоўнасць і абачлівасць. Практычнае прымяненне знаходзяць найлепшыя з рашэнняў. У правапісе, як кажуць, сем разоў адмер...**

— Спадзяюся, што і ў нашым выпадку будзе менавіта так.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*Гісторыя Айчыны — вайскоўцам*

*У. Емяльянчык, П. Лойка, Г. Сагановіч*

# БЕЛАРУСЫ: ЧАСЫ ВАЕННАГА ЛІХАЛЕЦЦЯ, АНАРХІЯ Ў КРАІНЕ, СТРАТА ДЗЯРЖАЎНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

## (другая палавіна XVII – XVIII ст.)

**Мы працягваем друкаваць раздзелы з вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі»**

Пасля Смаленскай вайны 1632—1634 гг. у ВКЛ усталяваўся ўнутраны спакой. Не цярпела яно і ад суседніх дзяржаў. Аднак гэта было зацішша перад бурай.

У 1648 г. на Украіне пачалося паўстанне казакаў на чале з гетманам Б. Хмяльніцкім, якое хутка вылілася ў вызваленчую вайну. Украінскі гетман і казацкая старшына мелі планы стварэння сваёй дзяржавы, у межы якой яны ўключалі і землі паўднёва-ўсходняй Беларусі — Падняпроўе і Палессе. З'яўленне ў гэтых мясцінах казацкіх загонаў Галавацкага, Крывашапкі, Мікуліцкага, Гаркушы, іншых палкоўнікаў, у складзе якіх было шмат беларусаў, выклікала масавае далучэнне да іх бяднейшага сялянства і мяшчанства. Ужо летам 1648 г. на поўдні і ўсходзе Беларусі пачалася шырокая барацьба сялянска-казацкіх атрадаў супраць шляхты, купцоў, магнатаў і каталіцкага духавенства. Гэты вызваленчы антыфеадальны рух на Беларусі меў антыпольскую скіраванасць. Хоць аснову паўстанцкіх атрадаў складалі мясцовыя прыгонныя сяляне ды мяшчане, але стрыжнёвай і арганізацыйнай сілай заставаліся казакі.

Да восені 1648 г. на баку паўстанцаў апынулася нямала беларускіх гарадоў — Тураў, Пінск, Мазыр, Брагін, Лоеў, Гомель, Чачэрск, Крычаў, Бабруйск і інш. Казацка-сялянскае войска спрабавала нават здабыць Слуцк — буйнейшую фартэцыю сярэднявечнай Беларусі, але пасля нядоўгай аблогі горада адышло.

Толькі ўвосень супраць паўстанцаў урад ВКЛ накіраваў некалькі вайсковых атрадаў шляхты і наймітаў. Каля Рэчыцы і Рагачова ў бітвах з казакамі і сялянамі яны пацярпелі паражэнне. У кастрычніку 1648 г. найбольш значныя сілы шляхецкага войска авалодалі Пінскам, а ў студзені 1649 г. на поўдні Беларусі з 10-тысячным корпусам з'явіўся палявы гетман Януш Радзівіл, які ўзяўся праводзіць буйную антыказацкую кампанію. Хутка яго войска авалодала Туравам, Мазыром, Бабруйскам, Рэчыцай. Удзельнікаў абароны жорстка пакаралі.

Аднак вясной 1649 г. гетман Хмяльніцкі прыслао на Беларусь 6 тысяч казакаў на чале з Гаркушам і Пабадайлам, да якіх пазней далучыўся загон палкоўніка М. Крычэўскага (беларускага шляхціца па паходжанні). Разам з атрадамі мясцовага сялянства, якое прыстала да казакаў, сілы Крычэўскага дасягалі 30 тысяч. У чэрвені ў бітве пад Лоевам Радзівіл разграміў злучэнне Крычэўскага. Пасля былі ліквідаваны асяродкі руху паўстанцаў у Пасожжы ды іншых раёнах Беларусі.

Антыфеадальная вайна 1648—1651 гг. на Беларусі была часткай вызваленчай вайны, распачатай на Украіне. Яна праходзіла перманентна, як серыя лакальных паўстанняў. Адсутнасць адзінага кіраўніцтва, арганізацыйнага цэнтра, адзінай ваеннай практыкі, шэраг іншых характэрных асаблівасцей не дазваляюць ставіць яе на адзін узровень з вызваленчай вайной украінскага народа ці сялянскімі войнамі ў Расіі. Аднак у беларускай гісторыі гэта — самая маштабная адкрытая ўзброеная барацьба ніжэйшых слаёў народа супраць феадальнага прыгнёту. Па дэструктыўным уздзеянні на гаспадарку краіны і яе дэмаграфічнае становішча антыфеадальная барацьба 1648—1651 гг. стала падобна да вялікай спусташальнай вайны. У зоне ваенных дзеянняў загінулі дзесяткі тысяч людзей, былі знішчаны вёскі і маёнткі, папсаваны і папалены храмы, разбураны гарады і мястэчкі.

Калі ў ВКЛ на некалькі гадоў усталяваўся спакой, вайна ў Кароне Польскай паміж украінскімі казакамі і палякамі рабілася ўсё больш цяжкай. Б. Хмяльніцкі прасіў дапамогі ў Маскоўскай дзяржавы, бо сам не мог у гэтай барацьбе перамагчы. Царскі ўрад, які ў 1648—1649 гг. ставіўся да ўкраінскіх казакаў дастаткова варожа, цяпер змяніў адносіны да Хмяльніцкага. Стала відавочнай магчымасць выкарыстаць зручную палітычную сітуацыю і, умяшаўшыся ў канфлікт Украіны з Польшчай, нанесці па Рэчы Паспалітай вырашальны ўдар.

Маскоўская дзяржава ў маі 1654 г. распачала вайну супраць Рэчы Паспалітай. Асноўнай яе мэтай быў захоп новых земель, у прыватнасці — Беларусі, Заходняй Украіны, Прыбалтыкі. Беларусь стала галоўным тэатрам ваенных дзеянняў.

Заатакаваўшы Беларусь з розных бакоў трыма арміямі і атрымаўшы дапамогу — злучэнне ўкраінскіх казакаў І. Залатарэнкі, цар Аляксей Міхайлавіч засяродзіў у Падзвінні і Верхнім Падняпроўі 100-тысячнае войска. ВКЛ мела толькі 10-тысячны корпус гетмана Я. Радзівіла, які адчайна спрабаваў абараніць краіну, але не мог стрымаць варожага націску. Пераможна займаючы горад за горадам, маскоўскія ваяводы за год авалодалі практычна ўсёй тэрыторыяй Беларусі да Дняпра і Дзвіны. Поспеху царскага войска напачатку спрыяла лаяльнасць мясцовага праваслаўнага жыхарства. Аднак стаўленне насельніцтва да заваёўнікаў хутка мянялася. Рабуючы ды хапаючы ў палон як católiкоў, так і праваслаўных, маскоўскія ратнікі выклікалі партызанскі рух на занятай імі тэрыторыі.

Сялянскія атрады самаабароны сталі ўтварацца на ўсходзе Беларусі ў першыя месяцы вайны. Узброеныя косамі, віламі і бердышамі, яны спрабавалі абараняць свае мястэчкі і вёскі, перашкаджалі заваёўнікам выводзіць у няволю дзяцей і жанчын, нярэдка дапамагалі рэгулярнаму войску Вялікага княства і ўступалі ў адкрыты бой з непрыяцелем. Так, у ліпені 1654 г. 3-тысячны партызанскі атрад з Калеснікаўскай воласці атакаваў групоўку ваяводы А. Трубяцкога (не менш 15 тыс.), якая збіралася штурмаваць Мсціслаў, і прычыніў ёй значную шкоду.

Падчас другой кампаніі (1655 г.) царскія ваяводы захапілі Менск, авалодалі Вільняй, занялі практычна ўсю Беларусь. Умяшанне Швецыі ў вайну супраць Рэчы Паспалітай пагражала цару канфліктам з моцным паўночным сапернікам, таму пад канец 1655 г. ваенныя дзеянні на тэрыторыі Беларусі і Літвы прыпыніліся. Яшчэ праз год паміж Маскоўскай дзяржавай і Рэччу Паспалітай было падпісана замірэнне.

Часовы мір мала чым змяніў становішча насельніцтва Беларусі. Як і падчас ваенных дзеянняў, яно цярпела ад царскіх ратнікаў, казакаў, шведаў: яго рабавалі і бралі ў няволю. Паводле запісу сучасніка, які праязджаў у канцы 1655 г. праз Панямонне, скрозь было «трупаў па дарогах поўна, вёскі, мястэчкі, сядзібы папалены, беднай хаткі няможна пабачыць цэлай». Ад мноства непахаваных трупаў людзей і жывёлы на Беларусі ўспыхнулі эпідэміі, якія некалькі гадоў гаспадарылі па ўсім краі. Вялізныя людскія страты ўзраслі яшчэ і ў выніку ажыццяўлення праграмы масавага прымусовага вываду насельніцтва з занятых тэрыторый у Маскоўскую дзяржаву. У прыватнасці, патрыярх Нікан паведаміў, што планавалася перасяліць з Беларусі каля 300 тысяч чалавек.

Спустошэнні і голад, тыранія і масавы вывад людзей у няволю выклікалі актывізацыю народна-вызваленчага руху на Беларусі, які развіваўся ў форме партызанскай барацьбы. Ужо ў 1655 г. партызаны прычынялі царскаму войску вялікую шкоду. Аляксей Міхайлавіч быў вымушаны пасылаць супраць іх спецыяльныя карныя фарміраванні.

У беларускім Падняпроўі стрыжнем вызваленчага руху супраць маскоўскага войска ў гады перамір'я стала казацкае войска палкоўніка І. Нячая, складзенае пераважна з мясцовых сялян. Найбольш вядомай была сотня беларускага палкоўніка Д. Мурашкі. У 1658 г. вызваленчы рух дасягнуў вышэйшай стадыі. Да казацка-сялянскіх партызанскіх атрадаў паўсюдна стала далучацца і падданая цару беларуская шляхта.

Дзеянні мясцовага насельніцтва спрыялі поспеху Рэчы Паспалітай, якая з 1659 г. праводзіла аперацыі на тэрыторыі Беларусі. Але толькі пасля падпісання мірнага пагаднення паміж Швецыяй і Рэччу Паспалітай вясной 1660 г. стала магчымым перавесці на Беларусь усё войска ВКЛ і ў дапамогу яму польскую дывізію. З гэтага часу ініцыятыва вядзення вайны канчаткова перайшла да Рэчы Паспалітай. Пачалося паступовае адваяванне тэрыторыі Беларусі. Неўзабаве пад кантролем царскай улады заставаліся толькі Падзвінне ды раёны Падняпроўя. Між тым абодва бакі былі настолькі стомленыя вайною, што рашучыя дзеянні прыпыніліся. Ніводны з ваюючых бакоў не меў сіл для перамогі.

У студзені 1667 г. у в. Андрусава (недалёка ад Мсціслава) было падпісана мірнае кампраміснае пагадненне тэрмінам на 13 з палавінай гадоў. Паводле яго Смаленшчына і Северская зямля заставаліся ў складзе Маскоўскай дзяржавы, а землі беларускага Падзвіння вярталіся Вялікаму княству. Украіна была падзелена па Дняпры, пры гэтым цар пакідаў сабе на 2 гады і Кіеў з невялікай акругай. Паводле пагаднення, сотні тысяч палонных, выведзеных за час вайны, заставаліся ў маскоўскай няволі.

Шматгадовыя ваенныя дзеянні прывялі Беларусь да дэмаграфічнай і гаспадарча-эканамічнай катастрофы. Агульныя страты насельніцтва пераўзышлі 53 працэнты ад яго даваеннай колькасці. Асабліва абязлюдзелі Усходняя і Цэнтральная Беларусь, раёны Падняпроўя.

Гаспадарка краіны таксама апынулася ў катастрафічным становішчы. Не засталося ніводнага цэлага ваяводскага горада, большасць з якіх (Мсціслаў, Віцебск, Менск) былі выпалены ўшчэнт. Моцна скарацілася колькасць сялянскіх гаспадарак і плошча ворыўнай зямлі. З-за недахопу людзей, рабочай жывёлы ворыва і праз дзесяцігоддзі пасля вайны шмат дзе заставалася пусткаю.

Па стратнасці і адмоўных выніках для развіцця грамадства вайна 1654—1667 гг. была, бадай, самай трагічнай у гісторыі феадальнай Беларусі. Яна рэзка абвастрыла канфесійныя супярэчнасці ў ВКЛ, паскорыла працэсы паланізацыі і амаль цалкам пазбавіла беларусаў сваёй арыстакратыі і мяшчанства. Афіцыйнае абвяшчэнне польскай мовы ў якасці дзяржаўнай для Княства ў 1697 г. было юрыдычнай фіксацыяй фактычнага панавання пальшчызны ў спустошанай краіне. Да канца XVII ст. Беларусь не ўзнавіла свайго даваеннага ні гаспадарчага, ні дэмаграфічнага патэнцыялу.

Утварыўшы альянс з Рэччу Паспалітай і Даніяй, Расія ў 1700 г. распачала вайну супраць Швецыі. Цар Пётр І свядома імкнуўся праводзіць ваенныя дзеянні на чужой тэрыторыі. Пасля перамогі пад Нарвай шведы рушылі на Рэч Паспалітую, і ўжо ў 1702 г. іх фармаванні з'явіліся на Беларусі. Магнаты Вялікага княства Літоўскага раздзяліліся на 2 партыі — прашвецкую, якую ўзначальвалі Сапегі, і прарасійскую, у якой на чале з Вішнявецкімі і Агінскімі згуртавалася большасць беларускай шляхты. Паміж дзвюма групоўкамі пачалася ўзброеная барацьба.

Амаль увесь 1706 г. на Беларусі гаспадарылі шведы і саюзныя ім магнаты Рэчы Паспалітай. Цяпер ужо яны мэтанакіравана спусташалі гарады і маёнткі прыхільнікаў караля Аўгуста ІІ і Пятра І. Асабліва пацярпелі Нясвіж, Клецк, Ляхавічы. Калі ж шведы пакінулі тэрыторыю Беларусі, сюды ізноў сталі збірацца палкі Пятра І. На вясну 1708 г. каля Віцебска і Дуброўны сканцэнтравалася самая буйная групоўка расійскай арміі — 71-тысячнае войска Шарамецева. Тады ж на Беларусь сталі вяртацца і шведы. Ужо ў ліпені каля мястэчка Галоўчын шведы сутыкнуліся з часткай арміі Пятра І і перамаглі яе. Але ў шведскага караля Карла XII для рашучай бітвы было замала войска. Ён спадзяваўся на дапамогу ўкраінскага гетмана Мазепы і таму, не затрымліваючыся на Беларусі, павёў сваю армію на Украіну. Пётр І таксама накіраваў галоўныя сілы на Украіну, пакінуўшы ў беларускім Падняпроўі 12 тысяч салдат і драгунаў для знішчэння корпуса Левенгаўпта, які вёз Карлу XII неабходныя боезапасы, фураж і харчаванне.

Расійскае войска атакавала корпус Левенгаўпта ў верасні 1708 г. каля Прапойска, у в. Лясная. Бітва скончылася разгромам шведаў.

27 чэрвеня 1709 г. у генеральный бітве пад Палтавай расійская армія разбіла галоўныя сілы Карла XII. На Беларусі, як і ў межах усёй Рэчы Паспалітай, непадзельна панавала царскае войска. Каралём быў зноў абвешчаны Аўгуст ІІ — прыхільнік Пятра І. Рэч Паспалітая стала ўсё больш падпадаць пад залежнасць ад палітыкі расійскага манарха. Калі ў ВКЛ магнаты і шляхта выступілі супраць цэнтралізатарскай палітыкі Аўгуста ІІ, Пётр І падтрымаў іх і павялічыў расійскія гарнізоны ў Рэчы Паспалітай. У 1717 г. Пётр І дамовіўся з прускім каралём Фрыдрыхам-Вільгельмам аб сумеснай «ахове» парадку ў Рэчы Паспалітай, што азначала палітычны кантроль над апошняй.

**(Матэрыял скарочаны; тэкст да друку падрыхтаваў М. ВІЖ.)**

***Працяг будзе.***

# Вучымся!

## УРОК ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце скорагаворкі, запомніце. Прагаварыце хутка па тры разы.

*Пад вываратнямі вавёрка ўе вяроўкі лоўка.*

*Груня грызла з Грышам грушы.*

2. Прачытайце словы, звярніце ўвагу на асаблівасці вымаўлення прыназоўніка **з.**

| [ш] | [с] |
|---|---|
| з шарэнгі | з самалёта |
| з шахты | з сушы |
| з шашы | з пасады |
| з шуму | з пасылкі |
| з чатырох | з соку |
| з чароту | з парэчак |
| з чаромхі | з травы |

3. Прачытайце верш Г. Бураўкіна, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

### Край мой

Не залаты зусім,
не срэбны,
быў на табе заўсёды ўбор,
Звычайны самы, самы зрэбны:
Зялёны луг ды сіні бор,

Каля дарогі жыта ў полі,
Вярба старая ля ракі,
Ды ў жоўтым восеньскім прыполе
Рабін даспелых агалькі

Ты не сляпіў вачэй.
Быў просты
Ва ўсе вякі твой родны ўзор:
Гаёў бялюткія бярозы,
Густы блакіт лясных азёр,
І лён, зусім, як неба,
сіні,
І ўсе ў рамонках берагі...
Мой беларускі, мой адзіны
Край, ад калыскі дарагі.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце верш С. Грахоўскага, растлумачце правапіс выдзеленых слоў.

* * *

*Баліць* душа за *кожнага* калеку.
*Сляпога* праз ручай *перавяду*,
*Бязногага сустрэўшы* чалавека,
*Палегчыць* я хачу яму хаду.

*Ідуць* па мулкіх вуліцах салдаты
*Вялікае Айчыннае* вайны,
А я пакутую, нібыта *вінаваты*,
Што за *мяне пакутуюць* яны.

Ім часта *сніцца* голас *камандзіра*
І зыркі бляск каля чужой *ракі*...
Таму хачу, каб *дзве* мае рукі
*Заўсёды* працавалі за *чатыры*.

2. Пастаўце словы ў такой граматычнай форме, каб **к** чаргавалася з **ц. Узор:** фільматэка — фільматэ**ц**ы.

Крытыка, гутарка, навука, практыка, пасадка, абноўка, падтрымка, шклянка, папка, падпіска, гаспадарка, граматыка, трубка, матэматыка, сяброўка.

3. Прачытайце верш Я. Сіпакова. Да выдзеленых слоў падбярыце такія адпаведнікі, каб пазначаныя зычныя чаргаваліся.

### Гукі дарог

*Дарогі,*
па вас *спрадвеку*
Час безупынна *праходзіў*.
Дарогі,
на вас *запісаны*
Гулкія *крокі* стагоддзяў.
Дарогі —
маўклівыя паскі,
Вы — зямлі *фанатэка*,
Што *складзена*
з тысячы
*крокаў*
*Вечнага*
*Чалавека*.

4. Пастаўце спалучэнні слоў у назоўным і месным склонах множнага ліку. Запішыце, падкрэсліце канчаткі прыметнікаў. З трыма спалучэннямі на выбар складзіце сказы.

**Узор.** Зялёныя аксамітныя лугі — па зялёных аксамітных лугах.

Белая кучаравая бяроза, гонкая тонкая сасна, заманлівая далёкая дарога, сонечны росны ранак, зорны цёплы вечар, чыстая крынічная вада, вольны ласкавы вецер.

5. Прачытайце тэксты паводле І. Мележа, растлумачце правапіс выдзеленых слоў. Па пачатку складзіце апавяданне і дайце загаловак.

#### Вайскоўцам пра родную мову

#### ВАРЫЯНТ І

У *ранішняй шэрані Аляксей* акінуў *вачыма* месца, дзе яны стаялі.

*Наперадзе*, перад *узгоркам*, была *батарэя — прыземістыя* гарматы з *апушчанымі* стваламі. Гарматы *яшчэ* не былі акапаны, толькі *дзе-нідзе* скупа *значыліся* купкі *свежай зямлі*. Мусіць, *артылерысты* таксама нядаўна падышлі. *Цяпер* усе спяшаліся да *ўсходу сонца* замаскіраваць *пазіцыю*. Салдаты насілі з лесу *галлё* для *маскіроўкі*.

Усім было *вядома*, што...

#### ВАРЫЯНТ ІІ

Танкі *рушылі адзін* за адным. *З'яднаныя, у адзіным імкненні.* Лязгаталі, пераклікаліся гусеніцы, неспакойна гурчалі маторы.

*Наперадзе* было добра відаць *зарнічныя* выбліскі ад *стрэлаў батарэй*. Выбліскі *гэтыя*, як агні *маякоў*, паказвалі напрамак танкістам. Гукі бою ледзь даходзілі: іх *глушыў* шум машын.

*Аляксей вёў* свой танк *першым*. Ён *сядзеў* на *вежы*, звесіўшы ногі *ў баявое аддзяленне*. Спераду ў яго быў круглы бранявы дыск, быццам шчыт, што *надзейна* закрывае *грудзі*.

І вось толькі...

6. Прачытайце сказы. Выкарыстоўвайце іх у размове.

* Адкуль адыходзіць наш аўтобус?
* На які вакзал нам трэба ехаць?
* З якой платформы ідзе электрычка на Оршу?
* На вакзале мы павінны быць роўна ў сем.
* Я спяшаюся ў бюро даведак.
* Калі трэба быць у аэрапорце?
* Расклад палётаў вісіць каля касы справа.
* З якога аэрапорта адпраўляецца наш самалёт?
* Вы чакаеце таксі?
* Ці я выйду гэтай дарогай на шашу?
* Куды вядзе гэтая дарога?
* Ваша вёска за павароткай справа?

7. Складзіце паведамленні паводле сітуацый.

* Вас накіроўваюць у камандзіроўку.
* Вы прыехалі ў незнаёмы горад.
* Вам трэба сустрэць на вакзале сябра.
* Расказваеце незнаёмаму чалавеку, як праехаць да...
* Вы спяшаецеся на электрычку.

## Тлумачэнне новай тэмы: Лічэбнікі. Ужыванне лічэбнікаў з назоўнікамі

Прачытайце лічэбнікі, звярніце ўвагу на іх правапіс.

| | | |
|---|---|---|
| адзін (адна, адно) | адзінаццаць | дваццаць адзін (адна, адно) |
| два (дзве) | дванаццаць | дваццаць два (дзве) |
| тры | трынаццаць | трыццаць |
| чатыры | чатырнаццаць | сорак |
| пяць | пятнаццаць | пяцьдзесят |
| шэсць | шаснаццаць | шэсцьдзесят |
| сем | семнаццаць | семдзесят |
| восем | васемнаццаць | восемдзесят |
| дзевяць | дзевятнаццаць | дзевяноста |
| дзесяць | дваццаць | сто |

Дзвесце, трыста, чатырыста, пяцьсот, шэсцьсот, семсот, восемсот, дзевяцьсот, (адна) тысяча, (дзве) тысячы, мільён, мільярд.

Першы (першая, першае, першыя), другі, трэці, чацвёрты, пяты, шосты, сёмы, восьмы, дзевяты, дзесяты, адзінаццаты, дванаццаты, трынаццаты, чатырнаццаты, дваццаты, дваццаць восьмы, трыццаты, саракавы, пяцідзесяты, дзевяносты, соты, двухсоты, дзевяцісоты, дзевяцьсот трыццаць пяты, тысячны, двухтысячны, мільённы, мільярдны.

Двое, трое, чацвёра, пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзевя́цера, дзеся́цера, адзіна́ццацера, двана́ццацера.

УЖЫВАННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ З НАЗОЎНІКАМІ

Назоўнікі пры колькасных лічэбніках *два(дзве), абодва(абедзве), тры, чатыры,* а таксама прыметнікі і іншыя словы прыметнікавай формы, што ўваходзяць у словазлучэнні з гэтымі лічэбнікамі, маюць форму назоўнага склону множнага ліку: *два высокія дубы, тры першыя новыя дамы, чатыры прачытаныя вершы, дзве пятыя, тры чацвёртыя.*

Пры абазначэнні адлегласці паміж прадметамі лічэбнік з назоўнікам у беларускай мове ўжываецца з прыназоўнікам **за:** *Спынімся за дзесяць кіламетраў ад горада* (параўн. *Остановимся в десяти километрах от города).*

ЗАЙМЕННІКІ. ПРАВАПІС ЗАЙМЕННІКАЎ

Прачытайце займеннікі, звярніце ўвагу на іх правапіс.

Я, ты, ён, яна, яно, мы, вы, яны.
Мой, наш, твой, ваш, ягоны, іхні, свой.
Гэты, той, такі, гэтакі, столькі.
Сам, самы, увесь, усякі(усялякі), кожны, іншы.
Хто, што, які, чый, колькі, каторы.
Нехта, нешта, нейкі, нечы.
Ніхто, нішто, ніякі, нічый.

**Заўвага.**

1. Зваротны займеннік **сябе** не мае назоўнага склону.

Н. —
Р. каго? *сябе*
Д. каму? *сабе*

В. каго? *сябе*
Т. кім? *сабой, сабою*
М. пры кім? (пры) *сабе*

2. Адмоўным займеннікам **некого, нечего** расійскай мовы адпавядаюць спалучэнні *няма каго, няма чаго* ў беларускай мове: *некого* послать — *няма каго* паслаць; *нечего* писать — *няма чаго* пісаць; *некем* заменить — *няма кім* замяніць; *нечем* помочь — *няма чым* дапамагчы.

*Не с кем* посоветоваться — *няма з кім* параіцца; *не с чем* сравнить — *няма з чым* параўнаць.

Займеннікі з часткамі **абы- і -небудзь** пішуцца праз злучок: **абы**-хто, **абы**-які, што-**небудзь,** каму-**небудзь,** а з часціцамі **не-, -сьці(-сь)** — разам: **нехта, хтосьці (хтось).**

Калі займеннік з **абы-** ўжываецца з прыназоўнікам, то прыназоўнік ставіцца паміж часткай і займеннікам; частка, прыназоўнік пішуцца асобна: **абы з кім, абы з чым, абы пра каго, абы пра што.**

Займеннікам з часціцай **не-, -сьці(-сь)** адпавядаюць у расійскай мове займеннікі з часціцай **-то:** *некага — кого-то, нечага — чего-то; нечы — чей-то, нечага — чьего-то; кагосьці — кого-то, чагосьці — чего-то.*

Займеннікам з часціцай **-небудзь** адпавядаюць у рускай мове займеннікі з часціцамі **-нибудь, -либо:** *хто-небудзь — кто-нибудь, кто-либо.*

### ЗАМАЦАВАННЕ

1. Словы, запісаныя ў дужках, пастаўце у патрэбнай граматычнай форме.

Дзве (свежая газета), два (скошаны луг), тры (куплены касцюм), чатыры (цікавая кніга), дзве (пахучая кветка), два (старэйшы сын), чатыры (цагляны дом), тры (пасаджанае дрэва).

2. Перакладзіце на беларускую мову.

Спроси *кого-либо, нечем* почистить, *не с кем* поговорить, *кто-то* сказал, *кто-либо* подойдёт, *кому-либо* передай, *что-либо* заметим, с *кем-то* разговаривал.

3. Устаўце, дзе трэба па сэнсу, займеннікі: *ягоная, іхні, нейкім, яго, ніхто, ён, яму, яе, сябе, сваім.* Перакажыце тэкст.

Касцюкевіч сядзеў на ... вадзіцельскім месцы, глядзеў праз шкло прыбора на шэрыя палігонныя далягляды. Глуха гудзеў вецер у паднятым гарматным ствале. Касцюкевіч аж сцяўся ад сораму, калі ўспомніў ... на сённяшнім ваджэнні, на тым самым праклятым мосце, які ніяк не «даецца» ..., зноў спалохаўся. У паніцы не чуў, што крычаў ... камандзір роты па радыёстанцы ... учапіўся рукамі ў штурвал, газаваў, Не чуў, як дзіка раве матор, як скрыгочуць па бетоне тракі (звяно гусеніцы). Потым з жахам адчуў, што ... машына паляцела ўніз, мабыць, перавярнулася, і закрычаў ... нямым голасам. А ... баявая машына нікуды не ўпала і не перавярнулася, стаяла бокам: адна гусеніца на мосце, другая на зямлі. Хлопцы амаль паўгадзіны прамучыліся, пакуль паднялі ... з моста. Але ... не папракаў хлопца за сарваную трэніроўку перад начным ваджэннем, якую будзе прымаць камандзір палка.

*Паводле А. Жука.*

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

ВОІНСКІЯ ЗВАННІ

| Вайсковыя | | Карабельнага складу |
|---|---|---|
| рядовой | радавы (курсант) | матрос (курсант) |
| ефрейтор | яфрэйтар | старшы матрос |
| младший сержант | малодшы сяржант | старшына 2 стацці |
| сержант | сяржант | старшына 1 стацці |
| старший сержант | старшы сяржант | галоўны старшына |
| старшина | старшына | галоўны карабельны старшына |

| | | |
|---|---|---|
| прапорщик | прапаршчык | мічман |
| старший прапорщик | старшы прапаршчык | старшы мічман |
| младший лейтенант | малодшы лейтэнант | малодшы лейтэнант |
| лейтенант | лейтэнант | лейтэнант |
| старший лейтенант | старшы лейтэнант | старшы лейтэнант |
| капитан | капітан | капітан-лейтэнант |
| майор | маёр | капітан 3 рангу |
| подполковник | падпалкоўнік | капітан 2 рангу |
| полковник | палкоўнік | капітан 1 рангу |
| генерал-майор | генерал-маёр | |
| генерал-лейтенант | генерал-лейтэнант | |
| генерал-полковник | генерал-палкоўнік | |

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## ў пытаннях і адказах

*Якіх багоў шанавалі нашыя продкі ў дахрысціянскія часы?*

Да прыняцця хрысціянства продкі беларусаў прытрымліваліся паганскіх (язычніцкіх) вераванняў, для якіх было характэрна шматбожжа. Адным з галоўных багоў быў *Пярун*, бог грому і маланкі, дажджу, апякун вайсковай справы і княжацкай дружыны. І дагэтуль гром у Беларусі называюць перуном. Лічылася, што бог Пярун трымае ў руках каменныя жорны і, ударагочы адным каменем аб другі, выклікае гром і маланку. Старажытныя каменныя сякеры, якія нярэдка выпадкова знаходзілі, называлі перуновымі стрэламі, лічылася, што парашок, нацёрты з іх, дапамагае ад розных хвароб.

У пэўнай меры праціўнікам Перуна ўяўляўся *Вялес* (Валос), бог жывёлагадоўлі і багацця, уладар замагільнага свету, апякун абрадавай паэзіі і паганскіх святароў-валхвоў. Да культу Вялеса мелі дачыненне і легендарныя асілкі-волаты. Археалагічныя і фальклорныя матэрыялы даюць падставы лічыць, што на тэрыторыі Беларусі Вялес быў галоўным богам. У многіх мясцінах захаваліся прысвечаныя яму велізарныя камяні (пазней іх называлі камянямі-краўцамі, чортавымі камянямі і г. д.). Вялес меў дачыненне і да ўшанавання вытокаў рэк, найбольш цесна з яго культам звязаны р. Вілія (Вялля) і заснаваны на ёй крывічамі горад Вільня.

Богам урадлівасці і пладносці, а таксама нябесным вершнікам лічыўся *Ярыла*, які «сумяшчаў» функцыі аграрную і вайсковую. Ёсць падставы лічыць, што Ярыла быў ці сынам, ці адной з іпастасяў Перуна. Богам сонца быў *Сотвар*, які ў розных мясцовасцях мог насіць і іншыя імёны. Багіняй дабрабыту і ўрадлівасці, апякункай сямейнага жыцця ў нашых продкаў была *Цёця*, якую ўяўлялі мажной высокай жанчынай з жытнім вянком на галаве, з хлебам і рознымі пладамі ў руках. Багіняй вясны, дзявочай прыгажосці і кахання была *Лёля* (Ляля), яе ўяўлялі ў выглядзе маладой прывабнай дзяўчыны. З культам Лёлі звязана распаўсюджаная на Палессі назва бусла — «лялека» (згодна з народнымі павер'ямі, бусел прыносіць дзяцей). Богам агню і апекуном кавальства быў *Жыжаль*, богам зімы, марозу і холаду — *Зюзя*. Нязгасны святы агонь называўся *Зніч* (адсюль слова «знічка»). Ранішні і вячэрнія зоркі ўвасаблялі адпаведна сёстры *Дзянніца* і *Вечарніца* (Вячорка). Са старажытнай міфалогіі вядомы таксама вобраз далёкага першапродка беларусаў — *Боя* (Бая) з вернымі сабакамі Стаўры і Гаўры.

**Эдвард ЗАЙКОЎСКІ.**

*Ці быў адзіны старажытнарускі народ?*

Адзінага старажытнарускага народа не было. Яго прыдумалі расійскія гісторыкі. Да тэрмінаў «древнерусский народ», «единый русский народ» яны звярталіся кожнага разу, калі ўзнікала патрэба апраўдаць імперскую палітыку Масквы, што імкнулася ўсякімі шляхамі давесці сваё нібыта гістарычнае права на Беларусь і Украіну.

У мінулыя стагоддзі, апраўдваючы экспансію і панаванне над беларусамі і украінцамі, яны заўзята прапагандавалі канцэпцыю існавання «трёх племён единого русского народа — великорусов, малороссов и белорусов».

У савецкія часы, калі беларускі і ўкраінскі народы юрыдычна набылі сваю дзяржаўнасць, гэтая канцэпцыя была прыстасавана да новых абставінаў. Яна трансфармавалася ў тэзіс пра існаванне «древнерусской народности как колыбели трёх братских народов», якія неўзабаве мусілі, паводле камуністычнай дактрыны, зліцца ў «новую общность», што па сутнасці азначала асіміляцыю.

А што ж было ўзапраўды?

Калісьці, з VII—VI стагоддзяў да нараджэння Хрыстова землі Усходняй Еўропы былі заселены рознымі народамі: на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі балты, Украіны — скіфа-сарматы, Расіі (ад Каспія па Волзе да Карэліі) — угра-фіны.

У VI—VII стагоддзях па нараджэнні Хрыстовым на гэтыя абшары са сваёй прарадзімы ў Вісла-Одэрскім міжрэччы і заходнім Беларускім Палессі прыйшлі славяне. Вынікам іх змешвання з мясцовым насельніцтвам стался зараджэнне новых народаў — беларусаў, украінцаў, расійцаў. У залежнасці ад таго, з кім зліваліся славяне, фарміраваліся і новыя мовы, традыцыі, менталітэт.

На этнічнай тэрыторыі Беларусі рассяліліся некалькі славянскіх плямёнаў: крывічы (Віцебшчына, Смаленшчына, Віленшчына, часткова Невельшчына і Гарадзеншчына), дрыгавічы (цэнтральная Беларусь і паўночнае Палессе), радзімічы (Магілёўшчына, Гомельшчына, заходняя Браншчына), валыняне (Берасцейшчына). Аб'яднаўшыся, крывічы і дрыгавічы ў X стагоддзі стварылі магутную дзяржаву — Полацкае княства, якое стала ядром беларускай нацыі.

Усведамленне старажытнымі беларусамі сваёй адметнасці фіксуецца летапісамі аж з X стагоддзя ў вядомай аповесці пра Рагнеду. А такая характэрная асаблівасць беларускай мовы, як «дзеканне», адзначаецца яшчэ на пачатку X стагоддзя арабскім пісьменнікам Аль-Масуд'і (Абун Хасан Ібн-Хусейн) у слове «эль *людзіна*», якое было саманазвай нашых прашчураў.

Першы вядомы помнік беларускага пісьменства налічвае ўжо болей за 1000 гадоў. Гэта надпіс «Гороушна» на глінянай пасудзіне, знойдзенай археолагамі пад Смаленскам. Таксама X стагоддзем датуецца надпіс на пячатцы полацкага князя Ізяслава, сына Рагнеды. Гэта найстаражытнейшыя помнікі пісьменства не толькі на Беларусі, але на ўсім абшары Усходняй Еўропы.

Тое, што некаторымі называецца «Древнерусское государство», строга кажучы, ніколі не існавала. Шматлікія спробы князя Уладзіміра ў канцы X стагоддзя зброяй аб'яднаць усе ўсходнеславянскія землі ўрэшце скончыліся няўдачай. Полацкая зямля ў зацятай барацьбе адстаяла сваю незалежнасць.

**Сяргей ТАРАСАЎ.**

*Мова і мы*

ПРАПАНУЕМ УВАЗЕ ЧЫТАЧОЎ ПРАЦУ ВЯДОМАГА БАЛГАРСКАГА СПЕЦЫЯЛІСТА ПА МОВАХ, ЯКАЯ НАДЗВЫЧАЙ АКТУАЛЬНАЯ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ. ВІДАЦЬ, ВАРТА ТОЛЬКІ ПАПЯРЭДНЕ БОЛЬШ ВЫРАЗНА АКРЭСЛІЦЬ ТОЕ, ШТО ДЛЯ АЎТАРА ЗДАЕЦЦА САМО САБОЙ ЗРАЗУМЕЛЫМ — АДНОСНА МОВЫ ЭТНІЧНАЙ МЕНШАСЦІ ЯК МАЛАЛІКАЙ НАРОДНАСЦІ, ШТО ЖЫВЕ НА ЎЛАСНАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ ТЭРЫТОРЫІ, АЛЕ АПЫНУЛАСЯ Ў САСТАВЕ ДЗЯРЖАВЫ, СТВОРАНАЙ БОЛЬШ МАГУТНЫМІ СУСЕДЗЯМІ-НАРОДАМІ, І МЕНШАСЦІ Ў ЯКАСЦІ ГРУПЫ ПЕРАСЯЛЕНЦАЎ, ЯКІЯ ЗАХАВАЛІ СВАЮ МОВУ, АЛЕ ЭТНІЧНАЯ ТЭРЫТОРЫЯ ЯКІХ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ІНШЫМ МЕСЦЫ. ЯШЧЭ ВАРЫЯНТ — КАЛІ СУСЕДНІЯ ДЗЯРЖАВЫ РАЗДРАБНІЛІ І РАЗАБРАЛІ ПАМІЖ САБОЙ ЧАСТКІ НЕЙЧАЙ ЭТНІЧНАЙ ТЭРЫТОРЫІ З ЯЕ НАСЕЛЬНІКАМІ (КУРДЫ) АБО КАЛІ ПЭЎНЫЯ ЭТНІЧНЫЯ ГРУПЫ КАЛАНІЗАВАЛІ НОВЫЯ ТЭРЫТОРЫІ (ФРАНЦУЗЫ І АНГЛІЧАНЕ — КАНАДУ). ВА ЎСІХ ПАДОБНЫХ ВЫПАДКАХ ПРАЦЭСЫ КАНКУРЭНЦЫІ МОЎ НЕАДНОЛЬКАВЫЯ І З РОЗНЫМІ ВЫНІКАМІ.

*Э. ЯЛУГІН.*

# Мовы, як народы: змагаюцца, квітнеюць, паміраюць...

*С. ДЖУДЖАЎ*

СУЧАСНАЕ міжнароднае жыццё часта ўскладняе саперніцтва моў, якое стварае рэальныя канфлікты, што падчас пераходзяць у бязлітасную барацьбу або сапраўдныя войны паміж мовамі. Гэтакае саперніцтва французскай і англійскай моў назіраецца ў канадскай правінцыі Квебек, валонскай і фламандскай у Бельгіі, іспанскай і баскскай на заходнім схіле Пірэнеяў, грэчаскай і турэцкай на Кіпры, курдскай і турэцкай у вілаеце Дыярбакыр (Турэцкі Курдыстан), венгерскай і румынскай у Трансільваніі, італьянскай і славенскай у Трыесце, Гарыцы і Удзіне, нямецкай і польскай у Сілезіі, урду і сіндхі ў Пакістане.

Колькасць такіх канфліктаў надта вялікая, каб можна было назваць найбольш вядомыя выпадкі. Існуюць краіны, тэрыторыі якіх уяўляюць сабой арэну, дзе некалькі моў змагаюцца адна з адной. У Афганістане, напрыклад, больш за дванаццаць моў і дыялектаў. Тут афганская (пушту), дары, узбекская, туркменская і іншыя мовы прэтэндуюць на роўнасць у правах.

Моўныя канфлікты ўзнікаюць усюды, дзе этнічная меншасць жыве на той жа тэрыторыі, што і нацыянальная большасць, і дзе меншасці пагражае небяспека асіміляцыі або дзе большасць (ці меншасць), што знаходзіцца ва ўладзе, імкнецца навязаць сваю мову падначаленаму насельніцтву. Канфлікты могуць быць як адкрытымі, так і замаскіраванымі.

Для многіх раёнаў і этнічных тэрыторый вайна моў ужо скончылася, і пераможаная мова, калі яна яшчэ існуе, знаходзіцца ў стане памірання або распаду. Такая сітуацыя з лужыцкай мовай у Германіі і многімі мясцовымі гаворкамі ў розных краінах. Ёсць мовы, якія зніклі назаўсёды: егіпецкая, этруская, фрыгійская, шумерская, акадская, гальская, фракійская, старажытнапруская, старажытнабалгарская і многія іншыя. Дадзеныя вучоных-этымолагаў у галіне тапанімікі гавораць аб існаванні ў мінулым мноства моў, якія потым зніклі. Л. Блумфілд вызначыў шырокую кельцкую тапанімічную зону распаўсюджання, росквіту і памірання кельцкіх моў, што распасціраецца ў Еўропе ад Багеміі да Вялікабрытаніі. Існуюць мовы, што знаходзяцца ў стане заняпаду або выяўляюць першыя прыкметы старэння. Вялікая колькасць моў застыла ў сваім развіцці, што ва ўмовах вострай моўнай канкурэнцыі таксама з'яўляецца паказчыкам заняпаду. Нарэшце, існуюць тры-чатыры сучасныя вялікія мовы, якія прэтэндуюць на сусветную гегемонію, хуткае распаўсюджанне якіх уяўляе непазбежную пагрозу для ўсіх астатніх моў і дыялектаў свету. Закон дынамічнай раўнавагі замкнёных сістэм застаецца ў сіле і ў галіне лінгвістычнай экалогіі. Паколькі агульная колькасць насельніцтва этнічнай тэрыторыі (замкнёная сістэма) застаецца практычна нязменнай або змяняецца нязначна, распаўсюджанне адной з нацыянальных моў адбываецца за кошт якой-небудзь або некалькіх іншых моў дадзенай тэрыторыі. Працэс пранікнення вялікіх моў цывілізацыі на тэрыторыі (лінгвістычныя арэалы) малых нацый становіцца ўсё больш інтэнсіўным. НТП, сучасныя сродкі масавай інфармацыі (друк, радыё, тэлебачанне, кіно), транспарт, міжнародны гандаль і турызм, сістэма адукацыі паскараюць гэты працэс, які непазбежна вядзе да абмежавання дыялектаў, інтэграцыі малых моў у вялікія, іх паступовага памірання і поўнага знікнення. Сапраўды, зараз больш мёртвых моў, чым жывых, і наша планета падобна да гіганцкага некропаля гаворак і культур.

Моўныя канфлікты выяўляюцца па-рознаму. У далёкім мінулым «лінгвацыд» ажыццяўляўся адначасна з генацыдам. Так было ў час еўрапейскай каланізацыі Амерыкі. У гісторыі ЗША можна знайсці шмат падобных прыкладаў. Напрыклад, у 1637 г. каланізатары поўнасцю знішчылі племя пеко.

У наш час лінгвістычныя заваёўванні ажыццяўляюцца больш тонкімі і мірнымі сродкамі: пры дапамозе прапаганды, культурнага пранікнення, але галоўным чынам праз эканамічную, навуковую дапамогу краінам, што развіваюцца. Імпартная культура часта з'яўляецца траянскім канём для народаў, якія намерваюцца «цывілізавацца». Нягледзячы на знешнюю гуманнасць метадаў і тактыкі, канфлікты паміж мовамі не становяцца меней жорсткімі.

На моўныя сутыкненні актыўна рэагуе грамадскасць усяго свету, і яны становяцца аб'ектам дыскусій на шматлікіх форумах і канферэнцыях.

Асобай разнавіднасцю канфліктаў і сутыкненняў паміж носьбітамі розных моў з'яўляецца моўная дыскрымінацыя. Яна выяўляецца ў перамяншэнні сацыяльнага значэння шэрагу моў (уключаючы іх культурную надбудову) і ў перабольшванні значэння мовы адной якой-небудзь прывілеяванай нацыі, што азначае прызнанне няроўнасці праў людзей, якія гавораць на розных мовах (напрыклад, пазбаўленне права гаварыць на роднай мове ў шэрагу сітуацый і прызнанне такога права за іншымі людзьмі, мова якіх аб'яўляецца годнай для афіцыйнага выкарыстання ў такіх жа сітуацыях).

Такая форма моўных канфліктаў вельмі характэрна для нашай эпохі. Моўная дыскрымінацыя па-рознаму праяўляецца на з'ездах і ў міжнародных арганізацыях, у дыпламатычных адносінах, у агульнай і спецыяльнай адукацыі, эканамічным, палітычным, навуковым і культурным жыцці, турызме, спорце, сродках масавай інфармацыі, сучаснай тэхніцы і г.д. Яна асабліва востра адчуваецца на міжнародных кангрэсах, канферэнцыях, сесіях, сімпозіумах, лекцыях, семінарах і фестывалях, але галоўным чынам на пасяджэннях Генеральнай Асамблеі ААН, ЮНЭСКА і іх шматлікіх камітэтаў і камісій, на міжнародных з'ездах прафсаюзных арганізацый і прафсаюзных асацыяцый.

На большасці гэтых міжнародных форумаў удзел асноўнай масы дэлегатаў зводзіцца да ролі простых статыстаў. Нават нядрэнна ведаючы афіцыйную рабочую мову, яны ўстрымліваюцца ад удзелу ў дыскусіях, паколькі знаходзяцца ў нераўнапраўным становішчы ў адносінах да субяседнікаў, якія гавораць на роднай мове. Часцей за ўсё, не з'яўляючыся паліглотамі, яны не могуць непасрэдна сачыць за развіццём дыскусіі. Ім застаецца толькі спадзявацца на перакладчыкаў і выказваць свае думкі праз пасрэднікаў.

*Працяг будзе.*




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Вялікі ўкраінскі паэт Тарас Шаўчэнка (1814—1861) сваёй творчасцю асабліва блізкі свядомым беларусам.

*Тарас ШАЎЧЭНКА*

## Малітва

Царам, сусветным шынкарам
Дукаты, талеры, рублі
І путы лютыя пашлі!

А працалюбам, іх рукам
Сярод абкрадзенай зямлі
Ты сілу-моц сваю пашлі.

Мне ж, сыну горкае зямлі,
Любові дай сардэчны рай
І больш дабротаў не давай.

## Думка

Нашто чорныя мне бровы
Ды карыя вочы,
Цвет юнацтва мне навошта,
Мрояў рой дзявочых?
Леты, леты маладыя
Марна прападаюць,
Вочы плачуць, бровы ў слоце,
Чорныя, ліняюць.
Сэрца вяне, сэрца тужыць,
Быццам птах без волі...
І навошта хараство мне,
Як не маю долі?
Цяжка жыць мне сіратою —
Ні любві, ні ласкі;
Свае людзі — што чужыя:
Гаманіць няма з кім.
Аніхто не распытае,
Чаго плачуць вочы;
І няма каму адкрыцца,
Чаго сэрца хоча,
Чаго птушкаю-галубкай
Дзень і ноч буркуе —
Ніхто ў яго не пытае,
Аніхто не чуе.
Што чужым да сіраціны?!
Ім навошта гэта? —
Хай рыдае сіраціна,
Хай марнуе леты...
Плач ты, сэрца, плачце, вочы,
Покуль не заснулі:
Так жалосна, так галосна,
Каб вятры пачулі.
І каб, буйныя, панеслі
За сіняе мора —
Чарняваму, здрадліваму
На лютае гора.

*Пераклад з украінскай Васіля ЖУКОВІЧА.*

# СКАРБЫ АД ПАЧАТКУ БЕЛАРУСІ...

На свята Міжнароднага дня музеяў пасля амаль двухгадовага перапынку ізноў адчыніў дзверы музей старажытнай беларускай культуры. На ўрачыстасць сабралася багата народу, прысутнічалі кіраўнікі Міністэрства культуры Беларусі. Як зазначыў у прамове, звернутай да гасцей і наведвальнікаў, загадчык аддзела Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АНБ доктар мастацтвазнаўства Віктар Шматаў — музейная экспазіцыя — ёсць адзіны ў Беларусі комплексны паказ гісторыі нашай культуры. Выстава складаецца з трох аддзелаў: археалогіі, народных побытавых экспанатаў, а таксама прафесійнага выяўленчага і дэкаратыўнага мастацтва. Папоўнілася з 8 да 20 калекцыя народных строяў. Дзеля гэтага рупна папрацавалі навуковыя супрацоўнікі аддзела М. Віннікава і В. Фадзеева. Сярод твораў прафесійнага мастацтва з'явілася новая вітрына старадрукаў, сярод якіх можна ўбачыць Біблію Скарыны, «Малую падарожную кніжыцу», Радзівілаўскую Біблію , «Статут Вялікага княства Літоўскага», помнік юрыдычнай літаратуры «Трыбунал правоў...» на старабеларускай мове. Выключную цікавасць аматараў айчыннай гісторыі, безумоўна, прыцягнуць рэдкія друкі кніжных гравюраў, а сярод іх унікальная партрэтная выява Астафея Валовіча. Па-ранейшаму ў раздзеле іканапісу шырока прадстаўлены даўнейшыя абразы ды побач драўляная касцельная скульптура. Дэкаратыўныя мастацкія тканіны, а гэта — слуцкія паясы, элементы апратаў ды іншай касцельнай вопраткі, таксама ўпершыню пададзены да ўвагі наведвальнікаў. Этнаграфічныя экспанаты (помнікі народнай культуры, вывезеныя з чарнобыльскай зоны пасля аварыі на АЭС) склалі зусім новы аддзел інстытуцкага музея. Замілаванне адмысловым умельствам продкаў і адначасова скруху ў сэрцы выклікаюць пададзеныя на чорным тле вясковыя кросны, вышыванкі, кублы, жлукты, прасніцы...



Музей збірае заяўкі на групавыя наведванні.

**Лявон ЛІПЕНЬ.**

# «Сьвітанак»— часопіс беларусаў Латвіі

**Чыталі?**

Паводле перапісу 1989 года ў Латвіі жыве 120 тысяч нашых суайчыннікаў. І латвійскае Таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» існуе не першы ўжо год. Нядаўна ж убачыў свет першы нумар літаратурна-мастацкага часопіса гэтага таварыства, які мае на вокладцы такую ж самую назву. «Сьвітанак» надрукаваны ў Маладзечне, наклад — 500 паасобнікаў. Значную дапамогу ў выданні часопіса аказалі Першы іерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліт Мікалай, спадар Алесь Палескі (Беласточчына) і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

У праграмнай заяве рэдакцыі адзначаецца, што «Сьвітанак» — часопіс беларусаў Латвіі і пра беларусаў Латвіі. Беларускасць у Латвіі існавала заўсёды, са старажытнага часу... Сёння мы ўпэўнены: прыйшоў час адрадзіць беларускасць у Латвіі, самабытнасць яе культуры, сьветапогляду, звычаяў, мастацтваў і літаратуры».

Нумар адкрываецца багатым на факталогію артыкулам «Беларускія мастакі Латвіі». Аўтар яго Вячка Целеш — вядомы мастак і калекцыянер беларушчыны ў Рызе, мастацкі рэдактар «Сьвітанка». Спадар Целеш падкрэслівае, у прыватнасці, што пранікненне беларускага мастацтва ў Латвію пачалося яшчэ ў сівой старажытнасці. А пастаянный з'явай у Латвіі яно стала пасля 1229 года, калі Рыга і Полацкае княства

Сьвітанак

РЫГА 1.93

У нумары:

Вячка Целеш
Беларускія мастакі Латвіі
Гістарычны нарыс

Андрэй Гуцаў
"...Што кожны з нас - то водбліск перуновы..."
Вершы

З архіваў
"ЗАГАВОРШЧЫКІ"
Палітычны дэтэктыў у дакументах

Кроніка таварыства "Сьвітанак"

падпісалі гістарычнае гандлёвае пагадненне. Шырокі гандаль па Даўгаве-Дзвіне паміж Рыгай і беларускімі землямі, — адзначае аўтар, — на працягу стагоддзяў садзейнічаў узаемнаму ўзбагачэнню нацыянальных культур беларусаў і латышоў. Далей чытач знаёміцца з зусім недаследаванымі старонкамі развіцця беларускага мастацтва ў Латвіі ў міжваенны перыяд. У артыкуле зроблена першая спроба сабраць з розных крыніц біяграфічныя звесткі, каб вярнуць з нябыту, узнавіць складаныя, надзвычай трагічныя лёсы таленавітых мастакоў-беларусаў, якія тады тварылі ў Латвіі: Міхася Калініна, Міколы Трубяцкога, Лявона Тамашыцкага. Аўтар верыць, што творчасць сучасных беларускіх мастакоў Латвіі «паскорыць працэс адраджэння нацыянальнай культуры сярод беларускай дыяспары».

Сярод матэрыялаў згаданага нумара «Сьвітанка» прыцягне, несумненна, увагу пачатак дакументальнага нарыса «Загаворшчыкі», прысвечанага судоваму палітычнаму працэсу, які адбыўся ў красавіку 1925 года ў Рызе над васьмю настаўнікамі Дзвінскай і Люцынскай беларускіх гімназій. Факталогія нарыса, які, дарэчы, чытаецца месцамі, як дэтэктыў, грунтуецца на тагачасных паведамленнях аб гэтым працэсе ў рыжскай газеце «Голас Беларуса». Разам з тым нарыс дапамагае дэталёва ўзнавіць тую атмасферу сапраўднай беларускасці, якая панавала ў беларускіх гімназіях Латвіі ў дваццатых гадах. У нарысе сустракаюцца прозвішчы многіх беларускіх дзеячаў, якія зрабілі шмат для адраджэння нашай дзяржаўнасці і нацыянальнай культуры: К. Езавітава, П. Мядзёлкі, П. Крэчаўскага, В. Пігулеўскага і інш. Мяркуем, што гэтым нарысам зацікавяцца і беларускія даследчыкі, бо ў навуковы ўжытак тут упершыню ўведзена шмат новых звестак з жыцця беларускай эміграцыі.

Чытачам таксама прапануецца своеасаблівая справаздача дзейнасці Латвійскага Таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» за 1988—1990 гады, анонс асноўных матэрыялаў наступнага нумара часопіса, інфармацыя для тых, хто жадае матэрыяльна падтрымаць гэта выданне (Разліковы рахунак: NoreKinu Konts Nr. 200700646 Latvijas bankas Pardaugavas nodala kods 310101599, кантактны тэлефон у Рызе: (0132) 217—705).

Падсумоўваючы наш кароткі агляд, скажам, што рэдакцыя часопіса не навязвае сваім аўтарам уласны погляд на шэраг праблем, у тым ліку на тое, якім беларускім правапісам ім карыстацца. Так, большасць матэрыялаў «Сьвітанка» надрукавана ў адпаведнасці з патрабаваннямі граматыкі Б. Тарашкевіча (праўда, яны не заўжды вытрыманы паслядоўна), а, напрыклад, вершы Андрэя Гуцава — паводле нормаў сучаснага беларускага правапісу. І яшчэ. Часопіс выйшаў на добрай паперы, мастацкае афармленне яго заслугоўвае самай высокай ацэнкі: «Сьвітанак» прыемна ўзяць у рукі.

Такім чынам, беларусы суседняй Латвіі ўпершыню ў пасляваенны перыяд атрымалі сваё ўдалае, цікавае і змястоўнае перыядычнае выданне. А гэта значыць, што магутны адраджэнскі заклік «Жыве Беларусь!» паступова пашыраецца на ўсю нашу спрадвечную этнаграфічную тэрыторыю.

**М. В.**



# З народных вытокаў

На рэпетыцыі фальклорнага калектыва калгаса «Авангард» з'язджаюцца жыхары Несуцічаў, Брольнікаў, Клюкавічаў, Вараб'ёвічаў і іншых вёсак Навагрудскага раёна. Для ўдзельнікаў ансамбля — жывёлаводаў і паляводаў — спеўкі і развучванні абрадавых сцэн сталі духоўнай патрэбай. Разам з бацькамі на рэпетыцыі прыходзяць і дзеці. А гэта значыць, што калектыў мае будучыню. Аснову рэпертуару «Авангарда» складаюць беларускія песні, якія спяваюць у вёсках раёна.

НА ЗДЫМКУ: фальклорны калектыў калгаса «Авангард» паказвае вясельны абрад.

Фота Яўгена **КАЗЮЛІ. БЕЛІНФАРМ.**




*Д. ДЖАРВІС: Атлусценне*

Празмернае павелічэнне вагі, напэўна, звязана з залішнімі тлушчавымі адкладамі ў арганізме. Існуюць розныя спосабы вызначэння, якой павінна быць вага таго або іншага чалавека. Народная медыцына прапануе наступны спосаб: двайны аб'ём запясця павінен быць роўным аб'ёму ніжняй часткі шыі. Двайны аб'ём ніжняй часткі шыі — акружнасці таліі. Калі ў вас аб'ём таліі большы за аб'ём грудзей або падбародак робіцца двайным — гэта паказвае на парушэнні фізіялагічных і біяхімічных працэсаў у арганізме. У гэтым выпадку народная медыцына прапануе выкарыстаць яблычны воцат, каб пазбавіцца ад залішняй вагі.

Калі жанчына, на якой сукенка сядзіць у абцяжку, будзе піць па 2 чайныя лыжачкі воцату на шклянку вады падчас кожнай яды, то праз 2 месяцы яе сукенка ў таліі стане свабаднейшай на 1 дзюйм (2,54 см). Яшчэ праз 2 месяцы яна зноў пахудзее на 1 дзюйм і да канца пятага месяца яшчэ на адзін дзюйм. Праз год пасля пачатку ўжывання яблычнага воцату жанчына, у якой быў 50 размер, будзе насіць 42.

Вага зніжаецца паступова. Калі жанчына вагой 210 фунтаў (1 фунт — 400,5 грама) будзе прымаць за кожнай ядой па 2 чайныя лыжачкі яблычнага воцату на шклянку вады на працягу 2 гадоў, то вага яе стане 180 фунтаў.

Мужчына можа пазбавіцца ад «жывоціка» пры такім метадзе лячэння праз 2 гады. Яблычны воцат садзейнічае спальванню тлушчу ў арганізме, памяншаючы тым самым вагу чалавека.

Што да харчавання, то пры празмерным павелічэнні вагі неабходна выключыць са штодзённага рацыёну прадукты, якія садзейнічаюць адкладу тлушчу ў арганізме. Спосаб, які заснаваны на скарыстанні яблычнага воцату, просты і эфектыўны. Пры штодзённым яго ўжыванні мэтазгодна адну дозу прымаць падчас снедання, другую на ноч, а трэцюю — паміж гэтымі двума прыёмамі.

*У свеце газетных цудаў*

# «Рускія» сны для круглагаловых

Доўга не мог зразумець, чаму ў «Народнай газеце» адны матэрыялы друкуюцца на расійскай мове, а іншыя — на беларускай. Устаноўлена нейкая сістэма? Квоты? Ці пануе валюнтарызм, нягледзячы на наяўнасць пасады намесніка галоўнага рэдактара па пытаннях нацыянальнага адраджэння? Ну чаму адзін матэрыял надрукаваны па-расійску, а побач — па-беларуску, калі абодва не чытацкія прысылкі (чытачу, вядома, указу няма — якой мовай валодае, на той і напіша свой ліст), а прадукцыя рэдакцыйных супрацоўнікаў? Магчыма, мне ніколі б не здагадацца і пра тое, чаму менавіта на расійскай мове, шчодра, на цэлую паласу, апублікаваны «Тлумачальнік сноў і летуценняў». Здавалася б з дапамогаю падобных займальных матэрыялаў прасцей за ўсё і прывучаць людзей чытаць па-беларуску. Але ж не, рэдакцыя пайшла толькі на тое, каб тэксты тлумачэнняў сноў, выдадзеных кнігай у Расіі ажно ў 1901 годзе, надрукаваць паводле цяперашніх нормаў правапісу расійскай мовы, бо сапраўды без малага за стагоддзе яны прыкметна змяніліся.

Магчыма, да гэтага часу я так бы і ламаў галаву над шарадамі гэтакай трасянкавасці «Народнай газеты», каб не мудрая дапамога саміх спадароў рэдактараў. Маю на ўвазе публікацыю артыкула «Русский вопрос: с точки зрения белоруса» ў нумары ад 30.04.93 г. Там многа чаго ёсць цікавага (пачынаючы з назвы ці то абачлівай, ці то прабачальнай — маўляў: гэта ж толькі з пункту гледжання «белоруса», а што з яго возьмеш), адно — пра антрапалогію. Бо менавіта ў антрапалагічнай частцы артыкула, як мне падалося, можна знайсці тлумачэнне правілаў трасянкі ў «Народнай газеце» (калі яны ўвогуле існуюць, зразумела). Цытую на мове арыгінала:

«Огромные пространства между Неманом и истоками Днепра, издавна заселённые древними балтами, в XI—XIII веках стали регионом этногенеза белоруссов. Для этой территории стал характерен длинноголовый (асаблiва заўважце! — У. А.) среднелицый антропологический тип, тогда как в верховьях Оки и Волги при участии финно-угорского компонента сложился совсем иной тип населения». Антрапалагічны, трэба думаць. Аўтар ці рэдакцыя па нейкай прычыне на гэты раз апісанне формы чэрапа (галавы) апускае, але і так зразумела — круглая. Пра гэта ўжо недзе раней было напісана, ды іншай формы для чалавечай галавы і прырода не дала, а толькі фантасты ў кнігах пра іншапланецян. Праўда, тут трэба разабрацца трошкі дакладней, каб людзі не блыталіся, разглядаючы сябе ці суседа,— што сабой уяўляе тая ж доўгая галава ды ў той жа час і сярэднетварая? А круглая? Відаць жа, не футбольны мяч? Вось у Гогаля два персанажы апісаны такім чынам: у аднаго галава, падобная на рэдзьку хвастом уніз, а ў другога наадварот. Шкада, класік літаратуры не ўдакладніў: ці адной яны нацыянальнасці? Але форма галавы розная і думаюць папрознаму...

Дык вось, калі кіраваўца публікацыяй «Народнай газеты», то перш чым канчаткова вырашыць, ці беларус ты, уважліва прыгледзься да сябе ў люстэрка і ў дадатак як след памацай галаву: у велікароса яна, аказваецца, іншай формы. Хм, а ў рускага? Ці гэта адно і тое ж? У любым выпадку доўгагаловыя павінны быць вельмі ўдзячнымі рэдактарам «Народнай газеты», што тыя не пераклалі «Тлумачальнік сноў» на беларускую мову. Яно і так, як папярэджваюць чытача ў прадмове, «толковать сны очень мудрено... слишком много нужно изучать темперамент каждого, чтобы сновидения были верными предсказателями», а тут уявіце сабе, што ў вас яшчэ і галава не той формы. Напрыклад, бачыце ў сне балалайку і, згодна «Сонніку», вырашаеце, што вас чакае радасць. Дык гэта ж калі ў вас галава круглая! А калі ў доўгай такое саснілася, то, можа, якраз наадварот. Відаць, так і з іншымі матэрыяламі, што друкуе «Народная газета». Тады можна зразумець, чаму, напрыклад, апэратыўную інфармацыю на першай старонцы ў раздзеле «Факс» друкуюць на расійскай мове, няхай яна нават атрымана ад беларускіх інфармацыйных агенцтваў, а падобную ж на трэцяй старонцы ў раздзеле «Замежжа» — па-беларуску. Круглагаловым адно, доўгагаловым другое. Але варта было б яшчэ і пазначаць матэрыялы адпаведнай рубрыкай-перасцярогай: «Для круглоголовых», «Для доўгагаловых».

P. S. Цяпер, здаецца, канчаткова зразумеў, чаму ў Вярхоўным Савеце большасць гэтак марыць, каб далучыцца да вайсковага саюза з Расіяй.

Ул. АСІНАЎСКІ.

## Саюзу Беларускай Моладзі — 50 гадоў

**Набліжаецца 50-я гадавіна ўтварэння Саюза Беларускай Моладзі. Гэтая патрыятычная арганізацыя існавала на акупаваных землях Беларусі падчас Другой сусветнай вайны (1943—44). Яна ставіла мэтай выхаванне моладзі ў нацыянальным духу, фізічнае і духоўнае ўдасканаленне.**

**Менскія маладзёжныя арганізацыі збіраюцца адзначыць 50-годдзе СБМ. Створаны аргкамітэт. Вечарына адбудзецца 26 чэрвеня ў зале Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. У праграме: урачыстая частка, выступленні ўдзельнікаў СБМ, азнаямленне з выставай дакументаў, прагляд дакументальнага фільма. Пачатак вечарыны — а 18-й гадзіне.**

***Аргкамітэт запрашае адгукнуцца былых удзельнікаў Саюза Беларускай Моладзі.*** **Тэл. 33-53-40, 31-90-88. Пісаць на адрас: 220013, г. Менск, вул. Якуба Коласа, 47-1-38.**

## НА ХВАЛЯХ БТ

**16 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА**

**18.00. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**22.25. НІКа.**
**22.40. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**17 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.45. Дыялог. Сустрэча са старшынёй Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі З. І. Шыркоўскім. Прамая лінія.**
**20.30. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.**
**21.00. Панарама.**
**22.25. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**23.35. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**18 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА**

**17.00. Латарэя аўтографаў. Пазнавальная праграма для школьнікаў.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.30. «Бласлаўенне словам». Пісьменніца Валянціна Коўтун.**
**21.00. Панарама.**
**23.00. НІКа.**
**23.15. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

**19 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА**

**12.20. Роднае слова.**
**13.30. «Як на споведзь...» Сустрэча з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым.**
**17.55. «Шматгалоссе». Народы Беларусі, іх культура, гісторыя, традыцыі.**
**19.00. Студыя «Тэлесябрына». «Буслік» распраўляе крылы. Песні З. Яўтуховіча для дзяцей.**
**21.00. Панарама.**
**23.40. НІКа.**

**20 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

**16.25. «І нараджае слова музыку». Беларуская паэзія ў творчасці А. Чыркуна.**
**20.00. Панарама.**
**20.40. Калыханка.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Эміцэр Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Зак. 275.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 8504 паасобнікі.
Падпісана ў друк 14.06.1993 г. у 15 гадзін.